# Чырвоная Беларусь

1933

№ 6



„Вучэньне Маркса ўсясільна таму, што яно вернае. Яно поўнае і стройнае, даючы людзям цэльны сьветапогляд, няпрымірымы ні з якімі забабонамі, ні з якой рэанцыяй, ні з якой абаронай буржуазнага гнёту. Яно ёсьць законны пераемнік лепшага, што стварыла чалавецтва ў XIX веку ў асобе нямецкай філёзофіі, ангдійскай палітычнай эканоміі, французскага соцыялізма“.

УЛ. І. ЛЕНІН.



П. СКОКАЎ

# ДЗІКІ РАЗГУЛ НАЦЫЯНАЛ-ІНКВІЗЫТАРАЎ

У германскім фашысцкім друку зараз можна сустрэць
крыкі аб тым, што фашыстамі, нацыянал-сацыялістамі, людзьмі,
якія аб сабе гавораць, як аб „прадстауніках нацыі"—атры-
мана перамога. Перамога гэта, па іх думцы, заключаецца ў
атрыманьні пры выбарах у рэйхстаг 17 мільёнаў галасоў.
А па сутнасьці—гэта манія тупых, бяздарных і наглых людзей.
Той, хто ведае для чаго германскія фашысты распускалі
рэйхстаг і разьвівалі самы шалёны тэрар рабочых мас, той упэў-
ніцца не ў перамозе, а ў адваротным. Тут не дапамогуць фа-
шыстам паліцэйскія вэрсіі, чорнае паказаць белым. Наадва-
рот, кожная спроба фашыстаў прыкрыцца вэрсыямі палі-
цыянтаў, хітра заблытаць клубок сацыяльных падзей, стано-
віцца ўсё больш і больш прыкметнай. Факты агаляюць палі-
цэйскія вэрсіі і хлусьню германскага фашызма. Ды інакш і
быць ня можа.
Чаго хацелі нацыянал-сацыялісты распускаючы рэйхстаг?

ўказваюць вышэй названыя газэты, у дом старшыні рэйх-
стагу Гэрынга. У гэты дом і схаваліся падпальшчыкі рэйх-
стагу. Так запэўніваюць дзьве ўрадавыя газэты.
Узьнікае пытаньне—адкуль-жа маглі зьявіцца падпальшчыкі,
калі падземныя каналы пачынаюцца з дому Гэрынга? Зразу-
мела, што падпальшчыкі не магла прабрацца праз замочную
шчыліну ў дзьвярох і занесьці з сабой шмат гаручага матэ-
рыялу; гэтыя людзі і прышлі адтуль куды выйшлі, з дому
пана Гэрынга. Ясная справа, што пры такіх абставінах пад-
пальшчыкам былі прадстаўлены ўсе ўмовы для свае падрых-
тоўчае работы і для ўтварэньня пажару. Гэтым людзям, як
бачна, быў забясьпечаны поўны спакой для дзеяньняў. Такім
чынам сам буржуазны друк, заблытаўшыся, праліваe некато-
рае сьвятло на паліцэйскую хлусьню. Зараз бачна, што афі-
цыйная вэрсыя аб прыналежнасьці камуністаў да падпалу,
таксама правалілася. А буржуазны друк, які яўна заблытаўся
ў падпале рэйхстагу, вы-
даў сябе з галавой.

Адказ адзін—нацыянал-
сацыялісты трымаліся на-
меру нанесьці сакру-
шальны ўдар камуністыч-
най партыі і ўсёй рабо-
чай клясе. Заваяваць са-
мастойную большасьць у
рэйхстагу, каб самастой-
на кіраваць дзяржавай, і
апошняе—заваяваць боль-
шасьць галасоў для ўра-
давага блоку ў рэйхстагу,
каб распусьціць рэйхстаг
пасьля выбараў.
Ці дасягнулі першай
сваёй мэты нацыянал-са-
цыялісты? Не. Нават з
правакацыяй падпалу
рэйхстагу справа ня ўда-
лася. Кіраўнікі герман-
скага фашызма, справу
падпалу спрабавалі пры-
пісаць камуністам. Нават
урадавы германскі друк
набраўся адчаю сказаць
аб тым, што правакатар
Ван-дэр-Любба — пад-
пальшчык рэйхстагу
зьяўляецца камуністам і
„толькі што прыехаў з
Расіі". Заяўляючы так,
пан Гэрынг думаў, што
гэтай справе, шытай бе-
лымі ніткамі паверацъ
шырокія рабочыя і пра-
цоўныя масы. Аднак,
пралічыліся ў дзіўнай за-
неі паны—кіраўнікі фа-
шызма. Увесь сьвет не
паверыў паліцэйскай
хлусьне. Факты ўскрылі
ўсю паднаготнасьць і
лоўкасьць рук фашызма.
Факты паказалі адварот-
нае.
У турме правакатар
Ван-дэр-Любба заявіў ка-
рэспандэнту галандзкай
газэты „Тэлеграф":
„Я не зьяўляюся чле-
нам якой-небудзь партыі
і не зьяўляюся перакана-



Тав. Эрнст Тэльман — правадыр германскай кампартыі, арыштаваны фашысцкай паліцыяй.

Больш таго, адносна
правакатара Ван-дэр-Люб-
бэ, „Бэрлінэр тагеблат"
паведамляе, што ён „яшчэ
18 лютага быў у вёсцы
Гліндаў, каля Падстама,
у таварыстве якіхсьці
„трох асоб". А гаагскі ка-
рэспандэнт венскай га-
зэты „Нэйе фрэйе прэс-
сэ" паведамляе аб тым,
што Ван-дэр-Люббэ меў
якіясьці справы з гер-
манскай паліцыяй яшчэ
ў 1931 годзе. Паданых
фактаў дастаткова для
таго, каб аправергнуць
сьцьверджаньні Гэрынга
аб тым, што Ван-дэр-
Люббэ „толькі што вяр-
нуўся з Расіі".
Разаблачаючы падпал
рэйхстагу орган фран-
цускіх сацыялістаў „По-
пюльлер" гаворыць аб
тым, што ход падзей
(справа ідзе аб падпале
рэйхстагу) павінен быў
разгарнуцца па такому
„сцэнарыю": пры тым як
убачаць, што гарыць
рэйхстаг, „германскі на-
род", з абурэньнем на-
кідваецца на камуністаў,
сацыял-дэмакратаў і праф-
саюзы, пасьля чаго адбы-
ваецца сапраўдная *вар-
фаламееўская ноч*, у ча-
се якой павінны былі
быць разгромлены на-
родныя дамы, памяш-
каньні рабочых партый,
кватэры іх кіраўнікоў,
друкарні, і адбыцца шэ-
раг забойстваў. Пасьля
гэтага, на другі дзень,
урад Гітлера, каб заспа-
коіць „узбунтаваны на-
род", павінен быў аб-
вясьціць ўне закону кам-
анулявацъ іх выбарчыя

ным камуністам. Маё прызваньне заключаецца ў барацьбе
супроць капіталізма. Я не шкадую аб тым, што я зрабіў. Я
ведаю што мяне чакае. Гэта ня першы раз як я падпадаю
пад няпрыемнасьці".
Гэтай заявы паліцэйскага правакатара не ўдаецца замаскаць
кіраўнікам фашызма. Апраўргаецца і той факт, што Ван-дэр-
Люббэ нібыта належыць да галандзкай кампартыі. Гэта так-
сама ёсьць афіцыйная вэрсія германскай паліцыі. Яна як і
ранейшыя правалілася, пакінуўшы пасьля сябе пустое месца.
Такія ўрадавыя газэты, як „Бэрлінэр бэрзэнцэйтунг" і „Ло-
каль анцэйгер" заблытаўшыся ў паліцэйскіх вэрсіях, у выніку
прагаварыліся ў тым, што падпальшчыкі рэйхстагу схаваліся
праз падземны канал, правога ацяпленьня. Як высьнілася,
канал вядзе ў падвал, які знаходзіцца пад рэйхстагам і дзе
пачаўся пажар. З падвалу падземныя каналы вядуць, як гэта

партыю і сацыял-дэмакратыю,
сьпіскі і арыштаваць увесь актыў.

„Усе гэта—гаворыць „Попюльлер",—павінна было адбыцца
па вызначанаму пляну, калі-б падпал адбыўся, як гэта было
першапачаткова вырашана, другога сакавіка. Аднак, гэты
плян не ажыцьцявіўся. Гітлер прымушаны быў паскорыць на-
ступленьне рашучага моманту, падрыхтаваньні ня былі закон-
чаны, у сьпешцы, у мятусьні ня ўдалося спаліць усё памяш-
каньне, сьляды, пакінутыя падпальшчыкамі ня былі зьнішча-
ны, і „няшчасны" Ван-дэр-Люббэ павінен быў цэлых 15 мінут
чакаць за зачыненымі дзьвярыма рэйхстагу, покуль зьявяцца
паліцэйскія для яго арышту". Правакацыя, як бачна ня ўда-
лася.

(*Канец на 3-й стар. вокл.*).

Пралетары ўсіх краін, злучайцеся!

# Чырвоная Беларусь

МАСТАЦКІ ІЛЮСТРАВАНЫ ДВУХТЫДНЁВІК
АДРАС РЭДАКЦЫІ: МЕНСК, САВЕЦКАЯ, 59. Тэл. аўтамат № 22-765
АДКАЗНЫ РЭДАКТАР М. ХВЕДАРОВІЧ
САКРАТАР П. СКОКАЎ
АФАРМЛЕНЬНЕ НУМАРУ А. ТЫЧЫНЫ

САКАВІК
№ 6 (78)
1933
ГОД ВЫДАНЬНЯ IV




## ТАВ. ЛЕНІН

### ПРА ТРЫ КРЫНІЦЫ І ТРЫ САСТАЎНЫЯ ЧАСТКІ МАРКСЫЗМУ

Вучэньне Маркса выклікае да сябе ва ўсім цывілізаваным сьвеце вялізарнейшую варожасьць і нянавісьць усёй буржуазнай (і казённай і лібэральнай) навукі, якая бачыць у марксызме нешта накшталт „шкоднай сэкты“. Іншых адносін нельга і чакаць, бо „беспристрастной“ сацыяльнай навукі ня можа быць у грамадзтве, пабудаваным на клясавай барацьбе. Так ці інакш, але *ўся* казённая і лібэральная навука *абараняе* наёмнае рабства, а марксызм абвясьціў бязьлітасную вайну гэтаму рабству. Чакаць бяспрыстраснай навукі ў грамадзтве наёмнага рабства—такая-ж дурная наіўнасьць, як чакаць бяспрыстрасьція фабрыкантаў у пытаньні аб тым, ці ня варта павялічыць плату рабочых, зьменшыўшы прыбытак капітала.





Але гэтага мала. Гісторыя філёзофіі і гісторыя сацыяльнай навукі паказваюць з поўнай яснасьцю, што ў марксызьме няма нічога падобнага на „сэктанства“ ў сэнсе якога-небудзь замкнутага, закасьцянелага вучэньня, узьнікшага *ў баку* ад сталбавой дарогі, разьвіцьця сусьветнай цывілізацыі. Наадварот, уся геніяльнасьць Маркса заключаецца іменна ў тым, што ён даў адказы на пытаньні, якія перадавая мысьль чалавецтва ўжо паставіла. Яго вучэньне ўзьнікла як просты і непасрэдны працяг вучэньня вялізарнейшых прадстаўнікоў філёзофіі, палітычнай эканоміі і сацыялізму.

Вучэньне Маркса ўсясільна таму, што яно верна. Яго поўнае і стройнае, дае людзям цэлы сьветапогляд, няпрымірымы ні з якімі забабонамі, ні з якой рэакцыяй, ні з якой абаронай буржуазнага прыгнету. Яно ёсьць законны прыёмнік лепшага, што створана чалавецтвам у XIX ст., у асобе нямецкай філёзофіі, ангійскай палітычнай эканоміі, французскага сацыялізму.

I

Філёзофія марксызму ёсьць *матэрыялізм*. На працягу ўсёй навейшай гісторыі Эўропы, і асабліва ў канцы XVIII ст. у Францыі, дзе разгулялася рашучая барацьба супроць прыгоньніцтва ва ўстановах і ў ідэях, матэрыялізм аказаўся адзінай пасьлядоўнай філёзофіяй, вернай усім вучэньням прыродазнаўчых навук, варожай забабонам, ханжаству і г. д. Ворагі дэмакратыі імкнуліся таму ўсімі сіламі „аправергнуць“, падарваць, збэсьціць матэрыялізм і абаранялі розныя формы філёзофскага ідэалізму, які заўсёды зводзіўся, так ці інакш, да абароны ці падтрыманьня рэлігіі.

Маркс і Энгельс самым рашучым чынам абаранялі філёзофскі матэрыялізм і не адзін раз растлумачвалі глыбокую памылковасьць усякага адхіленьня ад гэтай асновы. Найбольш ясна і падрабязна выкладжаны іх погляды ў творах Энгельса „Людвіг Фэйербах" і „Апраўяржэньне Дзюрынга", якія, падобна „Камуністычнаму маніфэсту", зьяўляюцца настольнай кнігай усякага сьвядомага рабочага.

Але Маркс ня спыніўся на матэрыялізьме XVIII ст., а пасунуў філёзофію наперад. Ён абагаціў яе набыцьцём нямецкай клясычнай філёзофіі, асабліва сыстэмы Гэгеля, якая ў сваю чаргу прывяла да матэрыялізму Фэйербаха. Галоўнае з гэтага набыцьця—*дыялектыка*, гэта значыць вучэньне аб разьвіцьці ў яго найбольш поўным, глыбокім і свабодным ад аднабаковасьці выглядзе, вучэньне аб адноснасьці чалавечых ведаў, якія даюць нам адлюстраваньне вечна разьвіваючай матэрыі. Навейшае адкрыцьцё прыродазнаўства — радый, электроны, ператварэньне элемэнтаў—удала пацьвердзілі дыялектычны матэрыялізм Маркса, наперакор вучэньням буржуазных філёзофаў з іх „новымі" зваротамі назад да старога і гнілога ідэалізму.

Паглыбляючы і разьвіваючы філёзофскі матэрыялізм Маркс давёў яго да канца, распаўсюджыў яго пазнаньне прыроды на пазнаньне *чалавецкага грамадзтва*. Вялізарнейшай заваёвай навуковай мысьлі зьявіўся гістарычны матэрыялізм Маркса. Блытаніна і самавольства, якое царыла да гэтага часу ў поглядах на гісторыю і на палітыку, зьмяніліся надзвычай цэлай і стройнай навуковай тэорыяй, якая паказвае, як з аднаго ўкладу грамадзкага жыцьця, разьвіваецца ў выніку роста вытворчых сіл другі, больш высокі,—з прыгоньніцтва, напрыклад, вырастае капіталізм.

Таксама як пазнаньне чалавека адлюстроўвае незалежна ад яго існуючую прыроду, гэта значыць матэрыю, якая разьвіваецца, так грамадзкае *пазнаньне чалавека* (гэта значыць розныя погляды і вучэньні: філёзофскія, рэлігійныя, палітычныя і г. д.) адлюстроўвае *эканамічны лад* грамадзтва. Палітычныя ўстановы зьяўляюцца надбудовай над эканамічным аснаваньнем. Мы бачым, напрыклад, як розныя палітычныя формы сучасных эўрапейскіх дзяржаў служаць умацаваньню панаваньня буржуазіі над пралетарыятам.

Філёзофія Маркса ёсьць закончаны філёзофскі матэрыялізм, які даў чалавецтву вялікую зброю пазнаньня, а рабочае клясе ў асаблівасьці.

## II

Прызнаўшы, што эканамічны лад зьяўляецца асновай, на якой узвышаецца палітычная надбудова, Маркс больш за ўсё ўвагі удзяліў вывучэньню гэтага эканамічнага ладу. Галоўная праца Маркса—„Капітал"—прысьвечан вывучэньню эканамічнага ладу сучаснага, гэта значыць, капіталістычнага грамадзтва.

Клясычная палітычная эканомія да Маркса склалася ў Англіі—самай разьвітай капіталістычнай краіне. Адам Сьміт і Давід Рыкардо, дасьледуючы эканамічны лад, паклалі пачатак *працоўнай тэорыі вартасьці*. Маркс працягваў іх справу. Ён строга абаснаваў і пасьлядоўна разьвіў тэорыю. Ён паказаў, што каштоўнасьць усякага тавару вызначаецца колькасьцю грамадзка-неабходнага рабочага часу, які ідзе на выраб тавару.

Там, дзе буржуазныя эканамісты бачылі адносіны рэчаў (мамен тавара на тавар), там Маркс ускрыў адносіны паміж людзьмі. Мамен тавараў выражае сувязь паміж паасобнымі вытворцамі пры дапамозе рынка. *Грошы* абазначаюць, што гэта сувязь становіцца ўсё ясьней, непарыўна злучае ўсё гаспадарчае жыцьцё паасобных вытворцаў у адно цэлае. Капітал абазначае далейшае разьвіцьцё гэтай сувязі: таварам становіцца рабочая сіла чалавека. Наёмны рабочы прадае сваю рабочую сілу ўласьніку зямлі, фабрык, зброі працы. Адну частку рабочага дню рабочы скарыстоўвае на тое, каб пакрыць выдаткі на ўтрыманьне сваё і сваё сям'і (заработная плата), а другую частку дню рабочы працуе дарма, стварае *дадатковую вартасьць* для капіталіста, крыніцу прыбытку, крыніцу багацьця клясы капіталістых.

Вучэньне аб дадатковай вартасьці ёсьць краевугольны камень эканамічнай тэорыі Маркса.

Капітал, які створан працай рабочага, душыць рабочага, разбурае дробных гаспадароў і стварае армію беспрацоўных. У прамысловасьці перамога буйнай вытворчасьці відавочна адразу, але і ў земляробстве мы бачым тую-ж зьяву: пераважнасьць буйнага капіталістычнага земляробства павялічваецца, расьце дапасаваньне машын, сялянская гаспадарка пападае ў пятлю грашовага капіталу, падае і разбураецца пад уціскам адсталай тэхнікі. У земляробстве—іншыя формы разбурэньня дробнай вытворчасьці, але самае разбурэньне яе ёсьць бясспрэчны факт.

Зьнішчаючы дробную вытворчасьць, капітал вядзе да павялічэньня прадукцыйнасьці працы і да стварэньня манапольнага становішча саюзу буйнейшых капіталістых. Сама вытворчасьць становіцца ўсё больш грамадзкай—сотні тысяч і мільёны рабочых зьвязваюцца ў плянамерны гаспадарчы арганізм, а прадукт агульнай працы прысвойваецца жменяй капіталістых. Растуць анархіі вытворчасьці, крызісы, шалёная пагоня за рынкам, незабясьпечанасьць існаваньня для масы насельніцтва.

Павялічваючы залежнасьць рабочых ад капіталу, капіталістычны лад стварае вялікую магутнасьць аб'яднанай працы.

Ад першых зачаткаў таварнай гаспадаркі, ад простага памену Маркс прасачыў разьвіцьцё капіталізму да яго вышэйшых формаў, да буйнай вытворчасьці.

І вопыт усіх капіталістычных краін, як старых, таксама і новых паказвае наглядна з кожным годам усё большай і большай колькасьці рабочых правільнасьць вучэньня Маркса.

Капіталізм перамог ва ўсім сьвеце, але гэта перамога ёсьць толькі праддзьвер'е перамогі працы над капіталам.

## III

Калі было скінута прыгоньніцтва, зьявілася „свабоднае" капіталістычнае грамадзтва, адразу выявілася, што гэта свабода адзначае новую сыстэму ўціску і эксплёатацыі працоўных. Разнастайныя сацыялістычныя вучэньні зараз-жа пачалі ўзьнікаць як адлюстраваньне гэтага ўціску і пратэст супроць яго. Але першапачатковы сацыялізм быў *утапічным* сацыялізмам. Ён крытыкаваў капіталістычнае грамадзтва, асуджаў, праклінаў яго, марыў аб зьнішчэньні яго, фантазіраваў аб лепшым ладзе, пераконваў багатых у безабычнасьці эксплёатацыі.

Але утапічны сацыялізм ня мог указаць сапраўднага выхаду. Ён ня ўмее ні растлумачыць сутнасьці наемнага рабства пры капіталізьме, ні адкрыць закон яго разьвіцьця, ні знайсьці тую грамадзкую сілу, якая спасобна стаць тварцом новага грамадзтва.

Між тым бурныя рэвалюцыі, якімі суправаджалася падзеньне фэўдалізму, прыгоньніцтва ўсюды ў Эўропе і асабліва ў Францыі, усё відавочна ўскрывалі як аснову ўсяго разьвіцьця і яго рухаючую сілу, *барацьбу клясаў*.

Ніводная перамога палітычнай свабоды над клясай прыгоньнікаў ня была заваевана бяз вострага супраціўленьня. Ніводная капіталістычная краіна не склалася на больш ці менш дэмакратычнай аснове, без барацьбы не на жыцьцё, а на сьмерць паміж рознымі клясамі капіталістычнага грамадзтва.

Геніяльнасьць Маркса заключаецца ў тым, што ён змог раней за ўсіх зрабіць адсюль і правесьці пасьлядоўна той вывад, якому вучыць сусьветная гісторыя. Гэты вывад ёсьць вучэньне аб *клясавай барацьбе*.

Людзі заўсёды былі і заўсёды будуць дурнаватымі ахвярамі абману і самаабману ў палітыцы, пакуль яны не навучацца за любымі звычкамі: рэлігійнымі, палітычнымі, сацыяльнымі формамі, заявамі, абяцанкамі адшукваць *інтарэсы* тых ці іншых клясаў. Прыхільнікі рэформаў і палепшаньняў заўсёды будуць абманутымі абаронцамі старога пакуль не зразумеюць, што ўсякая старая ўстанова, як бы дзікай і гнілой яна не здавалася, трымаецца сіламі тых ці іншых пануючых клясаў. А каб зламаць супраціўленьне гэтых клясаў, ёсьць *толькі адзін* сродак: знайсьці ў самым акружаючым нас грамадзтве, навучыць і арганізаваць для барацьбы такія сілы, якія могуць—і па свайму грамадзкаму становішчу *павінны*—скласьці сілу, якая можа зьмясьці старое і стварыць новае.

Толькі філёзофскі матэрыялізм Маркса ўказаў пралетарыяту выхад з духоўнага рабства, у якім марнаваліся да гэтага часу ўсе прыгнечаныя клясы. Толькі эканамічная тэорыя Маркса растлумачыла сапраўднае становішча пралетарыяту ў агульным ладзе капіталізму.

Ва ўсім сьвеце—ад Амэрыкі да Японіі і ад Швэцыі да паўднёвай Афрыкі—множацца самастойныя арганізацыі пралетарыята. Ён навучаецца і выхоўваецца, вядучы сваю клясавую барацьбу, пазбаўляецца ад забабоноў буржуазнага грамадзтва, злучаецца ўсё шчыльней і вучыцца вымяраць меру сваіх посьпехаў, загартоўвае свае сілы і расьце нястрымна.

(*Ленін*, т. XVI, ст. 349—353).

# ТАВ. СТАЛІН

## ПРА ДЗЕЙНЫ РЭВАЛЮЦЫЙНЫ ХАРАКТАР МАРКСЫЗМУ-ЛЕНІНІЗМУ

Існуюць дзьве групы марксыстаў. Абедзьве яны працуюць пад сьцягам марксызму, лічаць сябе „подлінно" марксысцкімі. І ўсе-такі яны далёка не аднолькавы. Больш таго: паміж імі цэлая прорва, бо мэтады іх работы дыямэтральна супроцьлеглы.

Першая група звычайна абмяжоўваецца надворным прызнаньнем марксызму, яго ўрачыстым абвяшчэньнем. Ня ўмея ці не жадая ўнікнуць у сутнасьць марксызму, ня ўмея, ці не жадая ператварыць яго ў жыцьцё, яна жывыя і рэвалюцыйныя палажэньні марксызму, ператварае ў няжывыя формы, якія нічога не гавораць. Сваю дзейнасьць яна асноўвае не на вопыце, не на вучоце практычнай работы, а на цытатах з Маркса.

Указаньні і дырэктывы чэрпае яна не з аналіза жывой рэчаіснасьці, а з аналёгіі і гістарычных паралелей. Разыходжаньне слова з справай такая асноўная хвароба гэтай групы. Адсюль разчараваньне і вечнае нездавальненьне лёсам, які заўсёды падводзіць яе, пакідае „з носам" імя гэтай групы — меншавізм (у Расіі), апартунізм (у Эўропе). Тав. Тышко (Іогіхес) на Лёнданскім зьезьдзе даволі метка ахарактарызаваў гэту групу, сказаўшы, што яна не стаіць, а ляжыць на пункце гледжаньня марксызму. Другая група наадварот, пераносіць цэнтр цяжкасьці пытаньня ад надворнага прызнаньня марксызму, на яго правядзеньне, на яго ператварэньне ў жыцьцё. Вызначэньне шляхоў і сродкаў ажыцьцяўленьня марксызму, якія адпавядаюць абставінам, зьмена гэтых шляхоў і сродкаў, калі абставіны зьмяняюцца, – вось на што галоўным чынам зварочвае сваю ўвагу гэта група. Дырэктывы і ўказаньні чэрпае гэта група ня з гістарычных аналёгій і паралелей, а з вывучэньня навакольных умоў. У сваей дзейнасьці апіраецца яна не на цытаты і выслоўі, а на практычны вопыт, правяраючы кожны свой крок на вопыце, вучыцца на сваіх памылках і вучыць другіх будаўніцтву новага жыцьця. Гэтым уласна—і тлумачыцца, што ў дзейнасьці гэтай групы слова не разыходзіцца з справай, а вучэньне Маркса захоўвае цалкам сваю жывую рэвалюцыйную сілу. Да гэтай групы зусім падыходзяць словы Маркса, у сілу якіх марксісты ня могуць спыняцца на тым, каб растлумачыць сьвет, а павінны ісьці далей, з тым каб зьмяніць яго. Імя гэтай групы—бальшавізм, камунізм.

Арганізатарам і правадыром гэтай групы зьяўляецца Ў. І. Ленін.

(*Сталін*—Пра Леніна).

# ЖЫЦЬЦЯПІС КАРЛА МАРКСА

(1818—1883 г.)

Карл Маркс нарадзіўся 5 мая 1818 г. у горадзе Трырэ (прырэйнская Прусія). Бацька яго быў адвокатам, па нацыянальнасьці яўрэй, які ў 1824 г. прыняў протэстанцтва. Скончыўшы гімназію ў Трырэ, К. Маркс паступіў ва унівэрсытэт, спачатку ў Боннэ, а пасьля ў Бэрліне, вывучаў юрыдычныя навукі, але больш за ўсё гісторыю і філёзофію. Скончыўшы унівэрсытэт у 1841 г., прадставіў дысэртацыю пра філёзофію Эпікура. Па сваіх поглядах К. Маркс быў яшчэ тады гегеліянцам-ідэалістам. У Бэрліне ён трымаў сувязь з гуртком „левых гэгеліянцаў", якія імкнуліся з філёзофіі Гэгеля рабіць атэістычныя і рэвалюцыйныя вывады.



Карл Маркс 1836 г.

Па скапчэньні унівэрсытэта К. Маркс перасяліўся ў Бонн, разьлічваючы стаць прафэсарам. Але рэакцыйная палітыка ўраду, які ў 1832 г. пазбавіў кафэдры Людвіга Фэйербаха і ў 1836 г. зноў адмовіўся пусьціць яго ва унівэрсытэт, а ў 1841 годзе адняў права чытаць лекцыі ў Боннэ ў малодога прафэсара Бруно Баўэра, прымусіла К. Маркса адмовіцца ад вучонай кар'еры. Разьвіцьцё поглядаў левага гэгеліянца ў Нямеччыне ішло ў гэты час наперад вельмі хутка. Л. Фейербах у асаблівасьці з 1836 г. пачынае крытыкаваць тэолёгію і павапачвацца да матэрыялізму, які ў поўнай меры бярэ верх у яго ў 1841 годзе („Сутнасьць хрысьціянства"). У 1843 годзе вышлі яго-ж: „Асноўныя палажэньні філёзофіі будучага". „Трэба было перажыць вызваленчае дзеяньне гэтых кніг"—пісаў Энгельс, пасьля аб гэтых творах Фэйербаха. „Мы (гэта значыць левыя гэгеліянцы, у тым ліку і Карл Маркс) „сталі адразу Фэйербэкаўцамі". У гэты час рэйнскія радыкальныя буржуа, якія мелі пункты дачыненьня з левымі гэгеліянцамі!, заснавалі ў Кёльне опозыцыйную газэту: „Рэйнскую газэту". Карл Маркс і Б. Баўэр былі запрошаны ў якасьці галоўных супрацоўнікаў, а ў кастрычніку 1842 г. К. Маркс зрабіўся галоўным рэдактарам і перасяліўся з Бонна ў Кёльн. Рэвалюцыйна-дэмакратычны напрамак газэты пры К. Марксе станавіўся ўсё больш вызначальным, і ўрад з пачатку падпарадкаваў газэту двайной і трайной цэнзурой а пасьля вырашыў зусім зачыніць. К. Марксу прышлося пакінуць рэдактарства. Газэтная работа паказала К. Марксу, што ён недастаткова знаём з палітычнай эканоміяй, і ён шчыра ўзяўся за яе вывучэньне.

Вясной 1843 г. К. Маркс прыехаў у Парыж, каб выдаваць за мяжой, разам з Арнольдам Рунэ, рэдыкальную часопісь. Выйшла толькі першая кніжка гэтай часопісі—„Нямецка-францускі штогоднік". Яна спынілася з-за цяжкасьцяй нелегальнага распаўсюджваньня ў Нямеччыне. У сваіх артыкулах у гэтай часопісі К. Маркс выступае ўжо як рэвалюцыянэр, абвяшчаючы „бязьлітасную крытыку ўсяго існуючага" і ў прыватнасьці „крытыку зброі", апіліруючай да мас і да пралетарыяту.

У верасьні 1844 г. у Парыж прыехаў на некалькі дзён Ф. Энгельс, які стаў з гэтага часу самым блізкім другам К. Маркса. Яны ўдвух прынялі самы гарачы ўдзел ў тагочасным кіпучым жыцьці рэвалюцыйных груп Парыжу і выпрацавалі, рэзка змагаючыся з разнастайнымі вучэньнямі дробнабуржуазнага сацыялізму, тэорыю і тактыку рэвалюцыйнага пралетарскага сацыялізму. У 1845 годзе К. Маркс па настойлівасьці прускага ўраду, як небясьпечны рэвалюцыянэр, быў высланы з Парыжу. Ён пераехаў у Брусэль. Вясной 1847 году К. Маркс і Ф. Энгельс прымкнулі да тайнага прапагандысцкага вобчаства: „Саюзу камуністых", прынялі выдатны ўдзел на II зьезьдзе гэтага саюзу (лістапад 1847 г.) і па даручэньню зьезда склалі вядомы „Маніфэст камуністычнай партыі", які

вышаў у лютым 1848 года. Калі пачалася лютаўская рэвалюцыя 1848 году, К. Маркс быў выслан з Бельгіі. Ён прыехаў зноў у Парыж, а адтуль, пасьля сакавіцкай рэвалюцыі, у Нямеччыну—у Кёльн. У Кёльне выходзіла „Новая рэйнская газэта", галоўным рэдактарам быў К. Маркс. Новая тэорыя К. Маркса была бліскуча падцьверджана ходам рэвалюцыйных падзей 1848—49 г.г., як падцьвердзілі яе пазьней усе пралетарскія і дэмакратычныя рухі ўсіх краін сьвету.

Перамогшая контррэвалюцыя з пачатку аддала К. Маркса пад суд, а пасьля выслала з Нямеччыны (16 мая 1849 г.). К. Маркс накіроўваўся з пачатку ў Парыж, але быў выслан і адтуль пасьля дэманстрацыі 13 чэрвеня 1849 году і паехаў у Лёндан, дзе і жыў да самай сьмерці.

Умовы эмігранцкага жыцьця былі надзвычай цяжкія. Матар'яльныя недахопы прыдушалі К. Маркса і яго сям'ю. Каб ня было пастаяннай шчырай грашовай дапамогі з боку Ф. Энгельса, дык К. Маркс ня толькі ня змог скончыць „Капітал", але і нямінуча загінуў-бы ад недахопаў.

Эпоха ажыўленьня дэмакратычнага руху канца 50-х і 60 г.г. зноў заклікала Карла Маркса да практычнай дзейнасьці. У 1864 годзе быў заснаваны ў Лёндане вядомы першы Інтэрнацыянал, „Міжнароднае таварыства рабочых". К. Маркс быў душой гэтага вобчаства, аўтарам яго першага „звароту" і масы рэзалюцый, заяў, маніфэстаў. Ялнаючы рабочы рух розных краін, імкнучыся накіраваць у рэчышча сумеснай дзейнасьці рознастайныя формы непралетарскага, дэмакратычнага сацыялізму, змагаючыся з тэорыямі ўсіх гэтых сэкт і школ, Карл Маркс выконваў адзіную тактыку пралетарскай барацьбы рабочае клясы ў розных краінах. Пасьля падзеньня Парыскай камуны (1871 г.) і пасьля расколу Інтэрнацыяналу бакуністамі, існаваньне Карла Маркса ў Эўропе стала немагчымым. Карл Маркс правёў пасьля кангрэса Інтэрнацыяналу ў Гааге (1872 г.) перанясеньне Генэральнага савету Інтэрнацыянала ў Нью-Іорк.



„Закаваны прамэтэй". Альлегорыя на забарону „Рэйнскай газэт"

Напружаная работа ў Інтэрнацыянале і яшчэ больш напружаная тэорэтычная работа канчаткова падарвалі здароўе К. Маркса. Ён працягваў сваю пераапрацоўку палітычнай эканоміі, скончаньне „Капітала", зьбіраючы масу новых матар'ялаў і вывучаючы шэраг моў (напрыклад, расійскую мову), але скончыць „Капітал" не дала яму хвароба.

14 сакавіка 1883 г. К. Маркс заснуў назаўсёды ў сваім крэсьле.

---

СЯМЁН КІРСАНАЎ

# ДЗЕНЬ У БРУСЭЛІ

*(урывак з паэмы „Таварыш Маркс")*

Вечар. Натоўп.
Чакаюць на вакзале.
Маркс падышоў,
Яму расказалі.
У палітоне запліканым
наўкось,
памылкава,
Глядзіць на насып
з цёплай ухмылкай —
Па гэтым насыпу
грукатам рэха —
У Брусэль
рэвалюцыя
можа прыехаць!
І з неба
ў разодраных хмарах
глядзяць
трывожныя зоркі дзьве.
Едзе, едзе
паравоз,
паравоз
едзе.
З неба сьвеціць
пара зорак,
пара зорак
сьвеціць.
Да Брусэля
сорак вёрст,
поля,
будка-
Каб хутчэй-жа ён
давёз.
Хутка,
хутка.
Можа цягнік дзе
у рэльсавых зьвіхах?
Да сэрца ў дрыготцы
рука прылягла.
Так Ленін
да поўначы
ў каморцы Цурыха,
У лютым нэрвова чакаў тэлеграм.
Каб слова,
мажнейшага ў сьвеце нагрэву
з слоў чалавечых
лепшае —
схапіць!
І на блянку выбіта:
„Рэвалюцыя".
Чуцен з неба
шорах, шост
цягнік
мчыцца.
Толькі, толькі
сорак вёрст,
трыццаць,
трыццаць. .
У штабе
маршала Бюжо
у чадзе
карты,
усталі блюзы
пад ружжо,
у бары —
кады.
Шыбы дзвэнкнулі
у пальбе,
зьверху
выпаў
і разбураны
цяпер
трон
Філіпаў.
На палац!
Забаўнасьць кроз,
шаблі
сьвецяць.
Едзе, едзе
паравоз, —
паравоз
едзе.
І крочыць Маркс,
стрымаць ня можа,
ня можа,
чаканьнем золь смыліць.

Да ну, пакажыся
нарэшце,
вось-жа!
І шукае дымку сіняватага блік.
Так мы
у сябе,
у Маскве, штораньня
Сьпяшаем
да першых дымкоў газэт —
калі-ж Парыж?
калі-ж ткі пройдуць яны
чырвонагвардзейцамі
па Элізэ?
Да Брусэлю
толькі дзесяць.
Нікне
поле...
Той хвіліне
можа месяц,
можа болей.
Вельмі доўгая
хвіліна,
дачакаць хаця
каб мог?
Але быццам,
але быццам
Воддалі
дымок.
Ён стаў
белява-газавай
залевай.
Я побач з Марксам
стаю на вакзале.
Ей,
праз хвіліну
узгусьці і прысьці.
Я чакаю рэвалюцыю
сёньня
паўстаўшых,
што прыдзе з подпісам —
Кашэн і Марці,
Савецкі штандар
над Францыяй узьняўшы.
Едзе, едзе
паравоз,
паравоз
едзе,
сьвеціць з неба
пара зорак,
пара зорак
сьвеціць.
Паравоз
едзе сьлепа,
пара зорак
сьвеціць з неба.
Паравоз
сьлепа сьвеціць,
пара зорак
з неба едзе.
Стукат будзіць
ціш аддаляў,
гэта леко-
матыў,
ён даносіць
гукахваляй
аддалек
матыў:
„У штандарах
рыжы
ідзе
Парыж,
Жавель
Бельвіль
у агні
пальбы,
натоўп
развой,
палацам
бой...“
Францускі пасол —
блядая маска,
шыл паравоза
ля газавых дуг,
сьціснуўся кулак
далоні ў Маркса,
саскочыў кандуктар
на поўным ходу.
Ён
на бягу,
далонь да губ,
з вагонных
сьцен,
крычыць.
І крык:
Іскрыць
крамнём:
„Le drapeau
rouge
flotte
sur la tour
de Valencienne.
La
Republique
est
proclamée!“
Абвешчана
Рэспубліка!
Herr Gott!
Das war ein Schlagen,
das war ein Sieg,
Vor einem Stück,
das war
ein Wurf!
Die Republik!
Uud alles
in drei Tagen
die Republik!
Die Republik!
Vive
la République!
Рэспубліка!
Рэспубліка!
Палацам —
куляў сыпле град,
У руках рабочых
штых цяпер,
І пачынаўшы
гэты верш
бярэ паперу
фрэйліграт.
Die Republik!
die Republik
Vive la République!
і Маркс ідзе
(das war ein Sieg!)
І Жэні
у зімніх туфэльках,
Праменьні ёй
на твар ляглі,
І ўсе сябры
ў адзіны крык:
Рэспубліка,
Рэспубліка!
Vive Republique
Бульвары выкружыў
Брусэль
Навaламі
патопу,
І зор Парыскіх
карусель
Ўзышла із-за натоўпу,
І бачыць Маркс
прамень штыхоў
і факелаў
зару
Ідзе,
ступае шырака
булыжнікамі ру
Застыў вартавымі
Maison de Roi,
І Маўр шапярнуў
Жэні такое:
— Барацьбы ўзьнімаецца
магутны вал.
Гэта пачатак
вялікіх боек!
І сотняю струн
як ветры
Зайгралі
кастрычніка ветры.
Над вуліцай хмара
ішла рабром,
„Аўрорай“ прысуд
сказаць,
пачуўся
можа, далёкі гром,
а можа
з крэйсэра
залп.
Кастрычніцкі дождж
струменьнем крывым
У ліхтарных блысках
ніціцца.
Людзі прайшлі.
Нібы вартавы
Узброеных ліцерцаў.
Дождж ня брусэльскі.
Кашнэ гусьцей.
Смольны ў ценях.
У цемнаце,
вінтоўкі
строяцца ў ночы...
А Маркс па дарозе
Шэпча жонцы:
— Ты бачыш:
паўсталі абоч ыя,
Гэты пажар
перакінецрца ў Вену,
іскрай
у Бэрлін перакінецца.
Раз кажа Карл
дык гэта напэўна.
І Жэні
пяе імяніньніцай.
Вось і дом
лесьвіцай
узьвіўся,
Пашоў
уверх-дном
дом закружыўся,
галовамі
сту[illegible]ліся.
паляцелі
рукапісы,
Бюлетэні
запісы,
паляцелі
засаП,
І з Лаурай
пухленькай
закруціўся
у міг.
— Рэспубліка,
Рэспубліка!
Vive la République!
Жэні
Маўр,
Лаура
Жэні
за рукі
ўправа
пашлі
ў кружэньні!
Барада
мяккая,
Чорная
як дзёгаць,
Добра фатара
за бараду
пацягаць!
Лейцы струменіць
сьмехам
зьвіняць,
Хурман стала
Жэні,
Маўр
за каня.
Дочка
задаволена
на-ка-та-ла-ся
На сьпіне
ў аўтара
„Капіталу“
Нават у вокан
выгляд узьняты,
Усюды
Марксавай след рукі.
Так з піонэрамі,
так з акцябратамі
Нашы старыя
бальшавікі.

УС. КРАЎЧАНКА




(*апавяданьне*)

— А то-ж...вось ты кажаш—бога няма. Яно вядома—няма. Ось, вазьмі мяне: пражыў я 60 год, а ні бога, ні чорта ня бачыў. Зьняверыўся... От, прыкладам, ты хочаш купіць каня. Табе і кажуць: там і там ёсьць до-обры конь, плаці за яго дзьвесьце рублёў. Ты заплоціш?—Не! Бо ты яго ніколі ня бачыў. Ось так і з богам. Кажуць: усебачашчы і другое там, маліся яму... Ну, а як я буду маліцца? А можа толькі таго і бога, што на дошцы намалёваны. Адкуль я ведаю? Ды хоць бы, скажам і падышоў да мяне які чалавек і сказаў:—я бог... Я-б яму першым чынам і гаркнуў: пакажы, моў, дакуманты, спраўку ці што іншае! Бо сказаць, што я бог, кожны дурань можа...

Дзед абапёрся аднэй рукой на калена, а другой адсякаў тэмпы ў гутарцы. Вочы ў яго блішчэлі і адсьвечвалі агонь смалякоў на камінку. Па хаце гулялі фантастычныя цені, носячы сівую бараду дзеда з кута ў кут, а агонь перараскакваў з рэчы на рэч і пераліваўся на іх бляскам. Зірнуўшы ў кут я сказаў дзеду:—Вы, дзеду, кажаце, што мала верыце ў бога, а чаму-ж гэта ў вас абразоў сьцяна?

— Эт, даўбешка старая, жонка мая гэта... Мо' сто сорак паклонаў кожны дзень б'е. „І за цябе, і за сябе"—кажа... А я яе прашу? Дурная, плюнь, кажу, што ён нам памог бог твой гэты:—Не, хоць даўбешкай бі... Хочаш паслухай, як я ёй хіграваў, як малодшым быў.

— Вось, паехалі мы, гэта, з бабай лён сеяць... А знай, сынку, што лён гэта была ўся адзежа наша. Вось і цаляюць усе з рознымі загаворамі сеяць, прыгаварваюць там, сёе, ды тое... Стой-жа думаю, старая (на жонку гэта) папужаю я цябе. Узараў, забаранаваў там, дый бяру каробку з семям. Як на кепскай зямлі сею, прыгаварваю:

— Расьці, расьці, лянок, шаўковаю травою, к небу цягніся, высокім ўрадзі... і ўсё такое. Баба—нічога, стаіць ля возу усьміхаецца. Зайшоў я гэта на добрую зямлю (раней я яе падрыхтаваў) дый давай прыгаварваць:—Каб ты, лён, праваліўся, па зямлі слаўся, вырас бадыльлем, хай цябе пярун разаб'е...

І-іх! Як усхопіцца мая баба, ды як загалосіць, ды пачне мянё клясьці:—А каб табе так, а што-б цябе гэтак, а што-б ты спруцянеў... і пайшла. Я ажно спужаўся. Ось, думаю, бяда. Хутчэй кончыў сеяць, ды гайда дадому. А баба, ад злосьці, аж падскаквае на возе. Маўчаў зразу я, са злосьці валы сьцёбаў, ну а далей завярнуўся да бабы, патрос пугаўем—змоўкла...

І каб ты бачыў, які лён сьмешны вырас?! Як перарэзаны! Там дзе кляў я каб загінуў лён, што лес вырас, а дзе прыгаварваў, каб рос, пры зямлі зусім... Баба дык толькі хрысьціцца, а ў мяне дык чуць жывот ня лопнуў, качаўся па зямлі з рогату: А што, кажу, бачыла?

Дзед, усьміхаючыся, ды патрэсваючы лысінай, сагнуўся, падняў смаляка ды кінуў яго на агонь. Па камінку прагульваліся тараканы, прусакі ды іншая жыўнасьць. Пасядзелі хвілінку моўчкі. Я прыслухаўся да цьвірканьня цьвіркуна. Раптам дзед голасна зарагатаў, чухаючы медзяную лысіну.

— Чаго, дзеду, мо' зноў, што сьмешнае ўспомніў...

— А ўжэ-ж, а ўжэ-ж!—Твар дзеда пакрыўся цэлаю сеткаю глыбокіх зморшчын. Я чакаў пакуль дзед загаворыць.

— Гэта з суседам я штуку састроіў, даўней з Мікітам „Шундай". Ён у нас на сяле, як-бы табе сказаць, самы сьвяты. Ніводнае нядзелі, ніводнага хоць-бы якога маленькага сьвята не прапусьціць—заўсёды ў царкве першы. Стаіць наўколенцах, паклоны б'ець, хрысьціцца і шэпча розныя малітвы. Вось гэты самы Мікіта вылічыў: столькі тыдняў пасьля вялікадню, столькі перад калядамі, на такім тыдні, перад маладзіком, ці пасьля, ліха яго ведае, трэба раней за ўсіх сеяць жыта—добра ўродзіць напэўна! На тое ліха я, ня ведаўшы нічога, пасеяў раней за яго...

Пасеяў, забаранаваў, усё як мае быць, ды пагнаў у бярэзьнічак валы пасьвіць, а воз стаіць на полі. Валы сабе ходзяць, пасуцца, аж бачу едзе і мой Мікіта сеяць. Прыехаў паглядзеў, што ў мяне ўжо засеяна (палоскі ў нас па суседзтву былі), ды аж за галаву схапіўся. Я-й ня ведаў чаго ён гэта, але мяне зацікавіла, што ён нібы звар'яцеў з гора. Чаго гэта?—думаю. Бачу, нагнуўся мой Мікіта, набраў у прыгаршні зямлі з майго поля ды па сваім незасеяным і сее... раз, другі. Гэта, значыцца, ўсё роўна першым жытам ён сее, як я потым даведаўся. Потым узяў каробку, насыпаў свайго жыта і пачаў сеяць звычайна.

Добра думаю сабе, чакай. Пасядзеў яшчэ трошкі, заняў валы ды пагнаў к возу. Прыганяю, паглядзеў на сьляды на сваёй ральлі, на тое месца з якога зьбіраў ён зямлю з жытам ды неўзнарок і пытаю:—хто гэта ў мяне так ральлю папаскудзіў, ня ты, Мікіта?

А ён адразу:

— А-ей жа-ж богу ня я, а каб я скрозь зямлю праваліўся, а каб мяне пярун.

— Веру, веру, Мікіта, што ня ты, чаго табе клясьціся, але ўсё-ж я даведаюся, хто гэта зрабіў. Нагінаюся (а Мікіта сочыць за мною) ды з сьлядоў, што на ральлі, зямлі сабе ў кішэню набраў і спакойна пачынаю запрагаць валы. Глянуў коса на Мікіту, а ён спалатнеў увесь, аж дрыжыць ад страху. Сеў я на воз,—„ксо", „ацэб", і паехаў, а Мікіта так і аслупянеў на полі. Я, вядома, зямлю з кішэні выкінуў, каб адзежы ня пэцкала.

А пад вечар шчапаю гэта я лучыну, аж падыходзіць да мяне Мікіта, чорны, сумны нейкі. Як падыйшоў—наўколенцы, уплач:—„Даруй, братка, даруй, Панасе, век не забуду... і пайшоў. Я да яго:

— Чаго ты, чаго ты? Дурань, скажы чаго?

— Я... я зямлю... у цябе з жытам браў, каб першым засеяць... даруй, суседзе!

— Ну дык чаго-ж ты, кажу, нічога я табе і рабіць ня думаў, бо з сьлядоў зямлю дарогаю высыпаў, а толькі я казаў, што даведаюся, хто зрабіў гэта...

Мікіта ўстаў, мацюкнуўся, плюнуў і, не сказаў ні слова, пайшоў...

Дзед замоўк. Я хацеў накіраваць гутарку на пэўны шлях.

— Дзеду, а дзеду! А цяпер ёсьць такая арганізацыя, што змагаецца з рэлігіяй. Вы-б...

— Чакай—перапыніў мяне дзед. Пайшоў згорбіўшыся, адчыніў куфэрак, вынуў адтуль штось заверчанае ў паперкі і падаў мне.

— „Разгарні і чытай"!

Я разгарнуў... каб мне на галаву ўпала столь, я зьдзівіўся-б куды меней чым цяпер. У руках у мяне паблісквау білет выяўнічых бязбожнікаў... Праз усю вокладку цягнуўся, прыгожы надпіс: „Паважанаму сябру нашай ячэйкі". Я адкінуў вокладку і ўбачыў: „№ такі-та—Панас Карасік". Я аслупянеў. „Вось так-так",—думаю сабе, паглядзеў, на дзеда а той так цёпла ўсьміхаецца...

— Што зьдзівіць думаў мяне арганізацыяй? Цяпер такога ў нас у калгасе няма, як раней—забабоны, прымхі... Сын мой аграномам цяпер у нас, па навуцы усё робіць—і сее і жне. Дзед старанна загарнуў у паперкі білет і панёс яго ў куфэрак...

На каміну дагараў смаляк.

„Неабходна самім стаць спэцыялістамі, гаспадарамі справы, неабходна павярнуцца тварам да тэхнікі, тварам да тэхнічных ведаў“ (І. Сталін).



Посьпехі ў галіне выкананьня пяцігодкі карэнным чынам зьмянілі матар'яльна-культурнае становішча рабочых.
На здымку—кватэра сьлесара Коласава ў Кічкасе.



Г. Лашын — сталевар печы № 4 Макееўскага заводу, даў рэкордную плаўку сталі, замест 8–9 гадзін выварыў сталь у 5 гадзін.

„І мы ня толькі стварылі гэтыя новыя вялізарныя галіны прамысловасьці, але мы іх стварылі ў такім маштабе і ў такіх разьмерах, перад якімі бляднеюць маштабы і разьмеры эўрапэйскай індустрыі.

А ўсё гэта прывяло да таго, што капіталістычныя элемэнты выцесьнены з прамысловасьці канчаткова і беспаваротна, а сацыялістычная прамысловасьць стала адзінай формай індустрыі ў СССР“ (І. Сталін)



У Данбасе рэканструяваны мэталюргічны завод імя Варашылава—механізавана вялізкая частка работ.
На здымку: Рэканструяваная домна № 5.

М. ХВЕДАРОВІЧ

# РАШУЧЫ АДПОР НАЦДЭМАЎСКІМ ЗБРОЯНОСЦАМ

Пераможны наступ сацыялізму ў краіне, ліквідацыя рэшткаў капіталістычных элемэнтаў, выклікае актывізацыю рэштак разьбітай контр-рэвалюцыйнай нацдэмаўшчыны, разьбітай, але канчаткова не дабітай. Недабіты вораг аказвае супраціўленьне „ціхай сапай“, прыкрываючыся фальшыва-нацыянальным сьцягам, часам спрабуючы выступаць адкрыта.

У красавіку мінулага году была апублікавана пастанова ЦК УсеКП(б) „Пра перабудову літаратурна мастацкіх арганізацый“.

Пастанова зьявілася ў выніку вялікага росту, узмацненьня пазыцый пралетарскай літаратуры і павароту найбольш кваліфікаванай часткі пісьменьнікаў у бок савецкай улады. Пастановай ад 23 красавіка партыя забясьпечыла савецкім пісьменьнікам усе неабходныя ўмовы для творчае перабудовы ў кірунку стварэньня вялікай сацыялістычнай літаратуры. Нацдэмаўскія зброяносцы расцанілі пастанову, як выражэньне нашае слабасьці, як „НЭП у літаратуры“ (не зразумелі нават і слова „НЭП“), як заціханьне клясавай барацьбы. Для свайго выступленьня яны скарысталі юбілей народнага паэты Я. Купалы.

Нацдэмаўскія пасьледышы ўлічылі, што выступіць пад прыкрыцьцем імя Я. Купалы, найбольш выгодна. Яны выступілі з рэшткамі „рыцарскай“ нацдэмаўскай зброі. Прытупленьне клясавае пільнасьці з боку некаторых кіруючых работнікаў нашага друку спрыяла іх рэваншысцкаму выступленьню.

Фото Л. МАЗЭЛЕВА

Брыгада т. Айнбіндэра—з Дзяржынскай МТМ атрымала пераходны сьцяг рабачкома за Датэрміновае выкананьне прамфінпляну. На здымку т. Айнбіндэр



Вось як малюе Сідарэнка клясавую структуру дарэвалюцыйнай Беларусі ў артыкуле „Шлях паэты“.

„Загоны—абшары бязьмежныя і шнуркі палоскі; белыя харомы і вёскі шэрыя; гучная музыка і дзікія стогны ды звон кайдановы; крыніцы він заморскіх і сьлёзы нядолі сіроцкай; гульні п'яныя і праца пякельная ды праклёны; атласы, брыльянты, шоўк, і лахмоцьці зрэбныя, жабрацкія; пагарда і прыніжэньне; вялікасьць і пакорнасьць; зьдзек і надзея; гвалт і цярпеньне ды мальба—небу, магнату, богу“...

Ён разглядае тагочасную клясавую структуру Беларусі з позыцый нацыянал-дэмократычных, нацыяналістычных. Ён бачыць у дарэвалюцыйнай Беларусі, толькі адну сацыяльную супярэчнасьць паміж польскім панам уласьнікам бязьмежных абшараў і бедняком-селянінам беларусам. Памешчыкаў ён называе магнатамі. Агульнавядома, што магнатамі звычайна называюць польскіх памешчыкаў. Крыху ніжэй Сідарэнка ўскосна пацьвярджае, што гэта ён і меў на ўвазе. На яго думку—гэта выключна Патоцкія, Радзівілы, Чарскія—адным словам палякі, а не беларусы.

На ніве з дня на дзень з году ў год, з грудзьмі ўпалымі, у лахмоцьцях, бясспраўны і забіты, гінуў і шчасьця ня бачыў, уздыхаў і плакаў, пакутнік сярмяжны, мужык-беларус, з яго „каравай“ і „няпрыгожай“ моваю, з якой кожны сьмяяўся, зьдзекваўся“.

У ва ўсім артыкуле няма і намёку на тое, што беларускія паны і буржуазія таксама былі, няма і малейшага намёку на сацыяльнае распластаваньне дарэвалюцыйнай беларускай вёскі на кулацкае, сярэдняе і бядняцкае сялянства. Беларусоў Сідарэнка ўяўляе сабе, як выключна працоўную нацыю, нацыю адзіную бяз усякага клясавага падзелу. А ці-ж гэта, па сутнасьці, ня ўся тая-ж зашмальцаваная контр-рэвалюцыйна-нацдэмаўская ідэйка Лёсікаў-Ластоўскіх аб адзінстве беларускай нацыі?

Асноўнай ідэёвай сутнасьцю контррэволюцыйных, нацыянал-дэмократычных выступленьняў Сідарэнкі—Пеначкіна зьяўляецца—апаганьваньне ўсяе тае пасьлядоўнае і бальшавіцкае барацьбы, якую вяла рабочая кляса БССР пад кіраўніцтвам КП(б)Б супроць контррэволюцыйнага нацыянал-дэмократызму. Сідарэнка імкнецца ўзяць рэваш—буржуазнаму нацыяналізму. Сідарэнка хапаючыся за варожыя нам элемэнты, элемэнты нацыянал-дэмократычныя ў творчасьці Купалы—імкнецца рэабілітаваць буржуазны—нацыяналізм.

Сідарэнка паклёпнічае на народнага паэту Я. Купалу, калі гаворыць, што сацыяльна-клясавы малюнак панска-царскай Беларусі, што паўставаў у выабражэньні паэты быў той самы, што намаляваў Сідарэнка. Па сутнасьці Сідарэнка ў сваім малюнку сьцьвярджае, што Купала бачыў у той час супярэчнасьць выключна паміж польскім панам і беларускім мужыком і тым самым з першых-жа крокаў творчае дзейнасьці паэты, хоча зрабіць з яго ярага нацыяналіста. Па-другое, у сваім малюнку Сідарэнка, па сутнасьці, сьцьвярджае, што на першым этапе сваёй творчасьці Я. Купала паказвае селяніна выключна, як пакорлівага, цярплівага, які далей мальбы ды насыўнай неакрэсьленай надзеі ня ідзе. У сапраўднасьці-ж у паэзіі Я. Купалы, ужо на першым этапе, знайшлі свае адлюстраваньне і настроі рэвалюцыйных пластоў сялянства. Таму мы і гаворым, што бярэм ад яе ўсе яе рэвалюцыйна-дэмакратычныя элемэнты і адмаўляемся ад усяго, што ў ёй ёсьць антырэвалюцыйнага, антыдэмакратычнага.

Апрача ўсяго іншага, „крытычны“ артыкул Сідарэнкі вызначаецца ўбогасьцю думкі, нясусьветнай блытанінай, адсутнасьцю ўсякае лёгічнае пасьлядоўнасьці. Адзінае, на што ён здольны—гэта параўняць некалькі зашмальцаваных контр-рэвалюцыйных ідэек з нацдэмаўскага арсэналу, ды яшчэ на брудную, заплотную лаянку па адрасе марксысцкае крытыкі і пралетарскае паэзіі, ужываючы тэрміны „артадаксальныя гандляры ісьцінай“, „пачуцьцёвыя кастраты“, у якіх валілася бясьсільная злосьць нацдэмаўскага ахвосьця.

Адным словам стыль варты белагвардзейскіх бульварных лісткоў.

Ня менш рашуча распраўляецца Сідарэнка із пралетарскімі паэтамі. Ён называе іх выключна рыфмачамі, прычым яго асабліва ўражае вытрыманасьць іх паэзіі і тое, што яны ў сваёй творчасьці арыентуюцца не на мінулае, а на рэвалюцыйную сучаснасьць. Дарэмна нацдэмаўскі зброяносец пускае дымавую заслону адносна скарыстаньня крытычнае, пераап-

Такая фармуліроўка, „што ўмовы паднявольнага жыцьця і бязьлітаснае эксплёатацыі працоўных мас да Кастрычніцкай рэвалюцыі не давалі гэтым масам магчымасьці ў дастатковай ступені выявіць іх творчыя здольнасьці ў справе стварэньня свайго мастацтва і мастацкай літаратуры",—зьяўляецца палітычна шкоднай, няправільнай фармуліроўкай. На яго погляд выходзіць, што Кастрычніцкая рэвалюцыя толькі павялічыла ступень магчымасьці для працоўных мас выявіць свае творчыя здольнасьці. У той час, калі толькі Кастрычніцкая рэвалюцыя, па-ленінску вырашыўшы нацыянальнае пытаньне, стварыла сапраўдныя ўмовы для разьвіцьця культур раней прыгнечаных нацыянальнасьцяй, дала поўны прастор працоўным выявіць свае творчыя здольнасьці.

З юбілеем народнага паэты Я. Купалы зьвязана і нацыяналістычнае выступленьне С. Баранавых з творам „Матчын сын". Выражэньнем актывізацыі кулацка-нацыяналістычных элемэнтаў на ідэалёгічным фронце зьяўляецца контррэвалюцыйная аповесьць М. Нікановіча „Журавіны", у якой паклёпніцкі паказваецца жыцьцё савецкага пісьменьніка, чым робіцца пераклічка з нацыянал-фашыстамі Заходняй Беларусі.

За апошнія часы клясава-варожыя элемэнты на літаратурным фронце, дзейнічаючы мэтадамі „ціхай сапы" імкнуцца правезьці праз наш савецкі друк свае контррэвалюцыйнае нацыянал-дэмократычнае сьмецьце. Такімі зьяўляюцца выступленьні Калюгі з творам „Цеснаватая куртачка", Русаковіча з творам „Дзьве сілы", Пруднікава, Лужаніна і інш. У сувязі з гэтым рэдакцыя „Чырвонай Беларусі" прызнае палітычна-памылковым надрукаваньне твораў Калюгі „Вам знаёмае", Нікановіча „Залатая восень", у нашай часопісі, дзе таксама працягваюцца кулацкія, буржуазна-нацыяналістычныя погляды.

Ня так даўно скончыўся пашыраны пленум арганізацыйнага камітэту саюзу СПБ. На пленуме асноўная творчая частка савецкіх пісьменьнікаў рашуча асудзіла клясава-варожыя вылазкі на фронце літаратуры з тым, каб на гэтыя выступленьні адказаць яшчэ больш шчыльным уключэньнем у грамадзка-палітычную работу, яшчэ большай творчай актывізацыяй.

У пастанове ад 28 студзеня 1933 г. ЦК КП(б)Б адзначае неабходнасьць узмацненьня рэвалюцыйнае пільнасьці.

„Бюро ЦК абавязвае кожнага камуніста і камсамольца пісьменьніка ўсямерна ўзмацніць рэвалюцыйную пільнасьць, бальшавіцкую няпрымірымасьць да клясава-варожых вылазак, варожых уплываў на літаратурным фронце, бязьлітасна выкрываючы і зрываючы маскі з клясавага ворага, выступаючага часта пад фальшыва-нацыянальным сьцягам, даючы ім сакрушальны адпор, разам з тым, чула і беражна адносячыся да тых пісьменьніцкіх кадраў, якія імкнуцца стаць на службу справе сацыялістычнага будаўніцтва, дабіваючыся сацыялістычнае іх перавыхаваньня ў працэсе творчай і грамадзкай работы".

Пад сьцягам змаганьня за рэвалюцыйную пільнасьць, за глыбокую ідэёвасьць і палітычную завостранасьць савецкае літаратуры, за авалоданьне майстэрствам мастацкага паказу, за практычную творчую распрацоўку праблем сацыялістычнага рэалізму і рэвалюцыйнага рамантызму пойдзем да новых перамог.

Фото ЧЭРНОВА

Веснавую сяўбу сустракаюць ударнай работай па рамонту сельска-гаспадарчых машын. На здымку рамонт трактарнай сеялкі

Фото МАЗЭЛЕВА

На здымку тав. Канюшэўская, токар Дзяржынскай МТМ. Тав. Канюшэўская адна з лепшых ударнікаў МТМ, якая абавязалася поўнасьцю выконваць заданьні па рамонту машын да веснавой сяўбы





ЗЬМ. ПАВАРОТНЫ

# Два „Чырвоныя байцы“

**1. Клебанцы.**

Калгасьніку Валодзю яшчэ толькі сёмы год. Ён нават у школу ня ходзіць. Яго асноўная работа—гуляць з Валяй, меншай чатырохгадовай сястрычкай. Валодзя сваю работу выконвае акуратна, улюбёна і з вялікай стараннасьцю. Валя заўсёды занята, заклапочана чым-небудзь цікавым і нязвычайным, хітра прыдуманым сваім старэйшым брацікам.

Дзеці гуляюць радасна, зусім захапляюцца і час іх бяжыць шчасьліва і няпрыкметна. Яны ў куце, пад варштаком, зробяць „калгасны кароўнік“ і будуць цэлы дзень даглядаць гэтых выдуманых дзіцячай фантазіяй Рагуль і Машак.

Валодзя ня крыўдзіцца ні на Валю, ні на матку, якая ліквідавала „абязьлічку“ ў занятках свайго меншага сына і прымацавала да яго сваю маленькую і адзіную дачку. Валодзя мае толькі вялікую прэтэнзію да клебанцаўскага калгасу „Чырвоны баец“, да яго праўленьня, рахункавода. Ён цьвёрда рашыў дабіцца праўды і надумаўся з Валяй напісаць заяву ў высокую ўстанову да вялікага чалавека.

Дзеці сталярскім алоўкам малююць на газэтным лісьце кружочкі, домікі, конікі, розных іншых знаёмых ім узоры—гэта іх асаблівы альфабэт. Валодзя лёг жывоцікам на газэту, малюе на ёй пакручастую лінію, пачынае новы радок і сам сабе сур'ёзна дыктуе—„дзядзечка Чарвякоў наш калгас „Чырвоны баец“ скруціў мне працадні“. Валодзя перагортвае ліст, папраўляе лакаток і сваю крыўду працягвае далей—„дзядзечка Чарвякоў пасварыцеся на наш „Чырвоны баец“ і скажыце каб мне запісалі працадні“.

Гэта ня выдумка. Валодзя Хадыка, якому пайшоў ад „пілі-паўкі“ сёмы год, летась вазіў з бацькам калгасныя снапы і канюшыну. Старэйшы дзесяцігадовы Пеця ў той час пасьвіў цялят. У Пеціну кніжку напісалі пяцьдзесят шэсьць працадзён. Валодзю-ж ня далі кніжкі і ня мае ён ніякіх запісаў. Таму Валодзя і мае такую вялікую крыўду на свой калгас „Чырвоны баец“.

„Няхай-жа будзе“—думае ўрэшце Валодзя і як вялікі кажа матцы:—„ты, мамка, сваіх працадзён дай мне колькі-небудзь, а я табе аддам іх, як толькі вялікім вырасту, кожны дзень буду хадзіць на работу і зараблю шмат-шмат, больш за бацьку, больш за Антона“.

У сям'і Хадыкі Пракопа, калгасьніка „Чырвонага байца“, Гатаўскага сельсавету, Менскага раёну сем чалавек. З іх не хадзіла на калгасную работу толькі Валя, ды Валодзіну работу не прынялі ў разон. Усе астатнія не прапушчалі ніводнага дню. Школьнікі: Ваня і Пеця ў летні час выраблялі 250 дзён. Іх матка Ганна, калі не лічыць маленькую Валю—адзіная жанчына ў хаце, да таго-ж маючы ў летні час грудное дзіцянё, выпрацавала 206 дзён. Усёй сям'і Хадыкі Пракопа налічана 892 працадні. З калгаснага ўраджаю Пракоп атрымаў: жыта—1785 *кг*, бульбы—9638 *кг*, ячменю—285 *кг*, пшаніцы—187 *кг*, грубых кармоў—1895 *кг*, грашыма 1428 руб. Аднэй капусты атрымала Хадыкава сям'я 1180 *кг*, ці для больш рэальнага ўяўленьня старых людзей пераваўшы ў даўнейшыя адзінкі вагі—больш за 70 пудоў белагаловай сакавітай гародніны.

Калгасны лад перамог канчаткова. Ён глыбока ўкараніўся ў быт, стаў блізкім, родным і саграваючым. Ён, гэты новы, зямлёй ня знаны бальшавіцкі лад стаў магутным і нязвычайна вырасьлі яго людзі, яго героі.

* * *

Антон Малькевіч дастае з кішэні зьвязак ключоў. Ён некаторы час перабірае іх пальцамі, кожнаму гляне на зарубчыкі, пакуль прывычныя пальцы і прыжмурканыя вочы ня знойдуць патрэбны. Потым адмыкае сьвіран, далёка запускае руку ў залацістую пшаніцу—так ён вымярае „тэмпэратуру“. У дзявяці невялічкіх сьвірнох, самых разматых сялянскіх клецях ляжыць насеньне „Чырвонага байца“. Яго, толькі зернавы—280 *цнт*.

Па некалькі раз на дзень абыйдзе спакойны, але порсткі і энэргічны Антон Малькевіч са сваім зьвязакам зьвінячых ключоў, усе свае сьвірны, праверыць адсартаванае насеньне, праверыць калгаснае дабро.

Усе замкі цэлыя. Насеньне не кранутае. Забраніраваная канюшына і лепшае сена на вясну чакаюць свае пары. Малькевіч Антон—адказны член праўленьня за ахову калгаснай маемасьці, лажыцца і ўстае не забыўшыся падзякаваць урад за такі закон. „Не палажыў—не чапай,—гаворыць Малькевіч,—а кранеш—бяз рук застанешся. Вось як добра прыдумана“.

У вялікай пуні стаіць адрамантаваны інвэнтар. Тры жняяркі прыладжаны і дагледжаны. Сенакасарка задрала высока ўгару свой рад сьмяротных нажоў, і жалезныя часткі, змазаныя аліваю, перагледзяюцца маккім гаспадарскім бляскам. Радком стаяць адрамантаваныя сінія плугі. Прыперліся да сьцяны абноўленыя „зігзагі“.

Яшчэ прыцемкам Малькевіч Антон з новым старшынём Клебанцаўскага „Чырвонага байца“—камуністам Мінічам прыйшлі на калгасны двор. Усё абмеркавалі, усё прыкінулі. Малькевіч кладзе ў кішэню зашмальцованага кароценькага кажуха пакамечаны кавалачак сьпісанай паперы і бярэцца за вузлы зьвіслай вяроўкі. Роўна, адмерана, як на гарадзкой вежы, адлічваецца восем гулкіх удараў „расцаркоўненага“ звона.

Гукавыя хвалі знаёмай музыкай льюцца па вёсцы і ў іх укладзена два сэнсы. Першы—восем гадзін раніцы, другі—ідзі на работу.

Першымі адчыняюцца бліжэйшыя да калодзежу вароты. Конюх Вашкевіч выводзіць маладога жарабка ростам з слана. Пляменны „Гняды“ высока трымае сваю магутную галаву, яго вочы чыстыя і яркія, з шырокай шыі зьвісаюць доўгія кальцатыя косы чорнай расчэсанай грывы. „Гняды“ выпівае некалькі вёдзер вады, цяпер-бы яму прагуляцца, разамнуць гэтыя дужыя белакапытыя ногі, але конюх Вашкевіч вядзе яго яшчэ на некалькі хвілін у стайню.

Тады поруч усіх астатніх коняй. Іх у „Чырвоным байцы“—сорак штук. Усе—адзін у адзін: рослыя, дужыя, сытыя, старанна вычышчаныя і вясёлыя.

Новы конюх—батрак Шакура Мікіта расказвае, як у камуне „Бальшавік“ здагадаліся, што клебанцы атрымалі прэмію.

— Вышла жанчына, кажуць—нават член Цыку яна,—гаворыць Шакура.—глядзіць на мяне ды кажа:—вы мабыць вялікую прэмію атрымалі!

— Чаму?—пытаюся я ў яе.

— Такія-ж у вас коні добрыя!

Я гляну на нашага сівога ды кажу ёй:

— Не, кабецінка, гэты ў нас бадай самы горшы, яго мы днямі на „курорт“ паставім, а вось каб глянулі вы на нашых другіх.

... Бяз штурханіны і бегатні кожны браў свой хамут, сваю сядзёлку і запрагаў свайго каня ў свае сані.

Старэйшы конюх—Мачальскі ўвіхаўся каля прыгожай белагрывай „Буланкі“. Ёй ужо тры гады і сёньня „Буланку“ ўпяршыню выпраўляюць на лёгкіх санках па торф.

Адны падводы паехалі ў хлявы, бралі там гной, другія—на балота па зямністы торф. Гужам цягнуцца падводы на асьнежаныя палі, растуць вялікія кучы тлустага кампосту, чарнеюць узгоркі ад скупога сонца раньняй вясны.

**2. Пашкавічы.**

Гатаўскі сельсавет мяжуецца з Новадворскім. І ў Новадворскім сельсавеце ёсьць калгас „Чырвоны баец“. Ён арганізаваўся ў 1930 г., у старых Пашкавічах. У ім 22 гаспадаркі. У гэтым годзе калгас перавыканаў усе дзяржаўныя нарыхтоўкі, прадаў дзяржаве сваіх хлебных лішак—15 *цнт* і на кожны працадзень калгасьнік „Чырвонага байца“ атрымаў: 3 *кг* жыта, 4 *кг* бульбы і шмат іншых прадуктаў.

... У канцы Пашкавіч вырас велізарны топаль. Трэба чатыром чалавекам узяцца за рукі, выцягнуцца ў ланцуг, каб ахапіць гэтае гіганцкае стагодняе дрэва. Прыгожая карона размашыстых галін разукевеілася срэбнымі ўзорамі зімы, ганарыста трымаецца на сваім магутным асанку, сурова ўглядаецца ў асьнежаныя далі.

Віктарава хата перад гэтым веліканам—маленькая і пакрыўджаная. Калісьці яшчэ бацька Віктараў, стары Герасімовіч, пасадзіў прынесены з лесу малады таполік каля свае хаты. Бы той вычварны подпіс у нізе афіцыйнага дакуманту стала гэта неразумнае дрэва каля хаты батрака Герасімовіча, на самай ускраіне вёскі. Некалькі пазьней яшчэ чатыры такіх хацінак і села ў канцы Пашкавіч. Забыты памешчык Бунгінаў „надарыў“ заслужаных сваіх нявольнікаў батрацкімі долямі непатрэбнай яму зямлі.

Кожная такая „гаспадарка“ мела дзесяціну пяшчанікаў. За межамі вёскі, прылішы да яе, стаяла пяць малюханькіх хатак з беднымі стрэхамі, пакрыўленымі комінамі, бяз другіх будынкаў, без агародаў. Іх, пасялян гэтых хатак, звалі дзесяцінькамі. Колькі гора бясхлебных год, зьдзекаў хавалася за гэтым словам! Колькі папрокаў, бяспраўя, насьмешак і кпін умяшчалася ў гэтай няйдобрай мянушцы!



**Луганбуд—гігант Савецкага паравозабудаўніцтва, узбройваецца навейшай тэхнікай. У 1933 годзе гігант дасьць 250 звышмоцных „ДФ". На здымку—рэвальвэрныя варштаты сыстэмы „Вардас", устаноўленыя ў адным з мэханічных цахоў Луганбуду.**

— Нас ня лічылі за людзей,—успамінае Баяровіч Пётра.—Мяне самога, яшчэ быў хлапчуком тады, выгналі з вясельля. Дзесяцінькікаў нікуды ня прымалі, адусюль іх гналі, ніхто з імі не хацеў радніцца—ні замуж ісьці, ні дзяцей хрысьціць.

Рос стройны прыгожы топаль—адзінае дрэва на батрацкай сядзібе. Рос і мужаў. Лісты яго сьмялей гаманілі і часам з непакойным шэпатам, устрывожаным роем наляталі на вёску.

„Хто зараз я?—узьняў голаву і пытае ў самаго сябе Баяровіч Пётра.— Вядома, я калгасьнік. Але, як жыцьцё мае калгаснае? На каго падобна яно? У галаве перабірае пашкавіцкія двары. Парадкам ідуць—кулакі, серадняк, беднякі, дзесяцінькікі. Думае пра ўсіх, каму, як жылося. Дзесяцінькікам ён сам быў. Тыя часы моцна заселі ў памяці і, як далёка адляцелі ў прошласьць. Пётра ня можа сказаць, што ён больш дзесяцінькік. Занадта-ж горкаю была батрацкая перапечка, каб можна было з ёю мірыцца сёньня! Бядняк?—дакопваецца Баяровіч.—Не братцы, ня бядняк. Я ўсяго маю ўдоваль, кленчыць ні да кога ня іду, не прадаю сваю сілу за кулацкі кусок асьцюковатага хлеба. Коні мае вясёлыя і сытыя, насеньне, як золата, плуг навостраны і блішчыць адліваю. Не, я не бядняк! Я не бядняк!—здаецца хоча крыкнуць ва ўвесь голас Пётра, крыкнуць так, каб пачулі ўсе такія як ён.

Таварыш Сталін!—гаворыць пра сябе Баяровіч.—Я больш не дзесяцінькік! Я не бядняк! Праз цябе, праз наш калгас я стаў серадняком. Так, так!—ты ня дзівіся, браце Пётра,—я стаў серадняком, а можа крышку пераскокнуў ужо і гэту катэгорыю, можа я крышку прысеў ужо на другі воз, на заможніцкі"...

Глядзіць Пётра на родны ленінскі партрэт, усьміхаецца сабе заваяваным шчасьцем і далей чытае прамову Сталіна: „І калі мы будзем працаваць сумленна, працаваць на сябе, на свае калгасы,—то мы даб'емся таго, што за якія-небудзь два-тры гады паднімем усіх калгасьнікаў, былых беднякоў і былых серадняком, да ўзроўню заможных, да ўзроўню людзей, якія карыстаюцца багацьцем прадуктаў і вядуць зусім культурнае жыцьцё.

У гэтым цяпер наша бліжэйшая задача. Гэтага мы можам дабіцца, гэтага мы павінны дабіцца ва што-б там ні стала".

Дзесяцінькік Баяровіч Пётра ў гэтым годзе адзін выпрацаваў 306 дзён. Атрымаў ад калгаснага ўраджаю 100 пудоў бульбы, 54 пуды жыта, 15 пудоў ячменю, некалькі пшаніцы, 260 руб. грашыма. Баяровіч з атрыманага аддаў даўнейшы доўг, 17 пудоў пераліччы калгасу насеннай запасычанасьці, якой ня ўнес пры ўступленьні і ца новага ўраджаю забясьпечан хлебам.

Круглы сірата, батрак з васьмі год Ерзмееў Мікола, дзесяцінькікі Баяровіч Пётра, Герасімовіч Віктар—калгасьнікі „Чырвонага байца", у гэтым годзе першы раз у гісторыі сваіх бацькоў і дзядоў, першы раз у жыцьці ўсяе свае радаслоўнай прадавалі дзяржаве свае хлебныя лішкі, астачу ад атрыманага ў калгасе ўраджаю.

Надвячоркам Віктар Герасімовіч прывёз з гораду гной. Па яго ініцыятыве пашкаўскі калгас „Чырвоны баец" у гэтым годзе рашыў угнаіць увесь свой клін яравога пасеву. Кожны дзень некалькі падвод вярнуўшыся з гораду, скідаюць на полі вялікія бурты чорнага ўгнаеньня.

У Віктаравай хаце ярка гарыць вялікая лямпа. Стары топаль сівее ад сьнегу і ад асьвятленага вакна.

З-пад рубанка сасновыя дашчэчкі выходзяць гладкія і пахучыя. Майстра ў Віктаравай хаце робіць новыя вокны і Віктар глядзіць на іх з адчыненай радасьцю.

З другога боку сівога стагодняга топалю стаіць пакрыты стройны новы зруб. Гэтай вясною дзесяцінькік Віктар Герасімовіч перабіраецца ў прасторны, сьветлы, пахучы смалой дом.

---

Новадворскі „Чырвоны баец"—у Пашкавічах. Гатаўскі „Чырвоны баец"—у Клебанцах. Адзін за другім сочаць, адзін пра другі прапытваюць. І нібы між імі няма гэтай васьмікілёмэтравай адлегласьці.

Між „Чырвонымі байцамі" не заключана ніякай фармальнай умовы па спаборніцтву. Але абодвы гэтыя калгасы ўжо цяпер ярасна змагаюцца за першынства ў веснавой сяўбе.

Клебанаўцы перакананы, але аб гэтым пакуль што яшчэ шырока нікому ня кажуць, што яны Новадворскім цёзкам „падатруць нос" і ўсё пасеюць за *дванаццаць* дзён.

Пашкаўцы цьвёрда рашылі „заткнуць за пояс" гатаўскіх аднаіменьнікаў і укладаюць усю веснавую сяўбу ў *адзінаццаць* дзён.

---

АНДРЭЙ АЛЕКСАНДРОВІЧ

# ПАГРАНІЧНАЯ ВЯСНА

*(УРЫВАК З ПАЭМЫ)*

Стаю ў бярэзьніку на беразе мяжы
І хваль вясны я чую пераклічку.
Зялёны гоман моўчкі, таямніча,
На колах сполаху—
да нас перабяжыць.
Зямля савецкая крынічнаю расой
Акропіць ласкава пялёсткавыя крыльлі.
Братэрскай дружбаю,
шасьценьнем,
між сабой—
Пра становішча краіны гаварылі.
Я—
прыкладаю вуха да зямлі,
Калісь рабілі гэта прадзеды ў дазоры,
І чую гутарку,
а гутарку вялі—
Заходня-беларускія прасторы.
Гаварылі віленскія гоні:
— Ой, вясна!
Кроў і сьлёзы нас палоняць,
Ой, вясна!
Вецер поле барануе,
Ой, вясна!
Голад з пошасьцю пануе,
Ой, вясна!
Шнурам петлі на прысадах,
Ой, вясна!
Славяць карныя атрады,
Ой, вясна!
Вясна гарачая, сярдзітая вясна,
Зарэе ўздыбленай трывогай над зямлёю.
Вось як рукой падаць,
а гэта за мяжою—
Атручана крывёю цаліна...
Бярозка стромкая, сасонка, нават куст,
Жывыя сьведкі дзікага разгулу,
Шуршацца роспаччу жабрацтва і пакут
Над грэбням хваль—
Падземных грозных гулаў.
І чуе сэрца гул падземны:
— Сей агонь!
Падымайся пад'ярэмны,
Сей агонь!
У далінах Віслы, Шары,
Сей агонь!
Край зьбярэ ўраджай пажараў,
Сей агонь!
Больш агню—запалу болей,
Сей агонь!
Воля робіцца ў падпольлі.
Сей агонь!
Сей жменяй шчодраю!
Падпаліш корань дрэву,
Яно счарнее, зглуміцца ў агні.
І гул зямлі і гоман гулкіх ніў
Сплятаюцца ў вянок
Цярплівасьці
І гневу!

Іл. БАРАШКА

# ВЯСНА ІДЗЕ

*(Абразок)*

Зіма вядзе спрэчкі з вясною.

Лютаўскімі марозамі даводзіць свае права на існаваньне.

А вясна з сонцам падружылася.

Выпадае дзянёк сонечны, ясны, правясеньні—прыгрэе сонца стрэхі саламяныя, пачне тапнець сьнег, ды буйнымі сьлязістымі сьлязьмі спадаць на зямлю,—нічога ня можа зрабіць зіма—сступае дарогу вясьне.

Ідзе, сьпяшаецца вясна!

Калматая шапка Саўкі спадае на потны лоб, грузна адчыняе ён дзьверы свае старой хаты, за парогам абівае нага аб нагу, сьнег зьбівае, разапранаецца.

У Саўчынай хаце аддае цьвільлю, чуцен пах кіслай затаўканай капусты, на сьценках вісіць мноства здымкаў—ілюстрацыя да жыцьцёвага шляху сям'і Саўкавай. У кутку сярод папяровых кветак відна багародзіца скарбяшчая, перад вобразам вісіць саламяны павук—даўняя работа Тэклі, жонкі Саўчынай, запылены, засіджаны мухамі... Манатонна чылікаюць ходзікі...

Разапранаецца Саўка, аклікае на ўсю хату Тэклю.

Заспаная, знураная работаю за дзень спаўзае старая з печы, бурчыць на Саўку, але спаўняе свой абавязак: паўзе з печы гаршок з капустай кіслаю, выпаўзае бульба ў мундзірох, зьяўляецца глыбокая міса ды лыжка.

— Часу чалавек ня мае паесьці, дайце рады... акціў... перапрэла ўсё ў печы...

— Дармо,—адгукаецца Саўка, праціраe вусы, разгладжвае бараду сваю шырокаполую,—давай на стол...

Клубіцца пара над сталом у покуце.

Есьць Саўка капусту кіслую, салам прыпраўленую, лушпіны пальцамі грубымі зьдзірае з бульбы, а думкі зусім не пра яду бягуць у галаве.

Сёньня яму калгаснае праўленьне даручыла прывесьці ў парадак збрую конскую—да веснавой сяўбы. Вось і выпічае Саўка—колькі яму спанадабіцца часу на тое, каб агледзець, ды адрамантаваць збрую.

— Еш, ды спаць кладзіся... зноў ня супакойваецца Тэкля.

— Лягу... чаго табе... ночы вялікія,—адказвае Саўка, ды думкамі сваімі зноўку пераносіцца ў стайню калгасную, дзе збруя неадрамантаваная грузам вісіць.

Такі ўжо чалавек Саўка—хварэе, як людзі кажуць, за даручаную яму работу, ні ўдзень, ні ўначы ня мае супакою ад сумненьня свайго. Руплівы Саўка чалавек, да таго—к усяму здатны.

Жыў Саўка на гаспадарцы сваёй—да ўсяго трэба было прывучыцца—і палоску ўзараць ды пасеяць, і збрую падрамантаваць, і садочак дагледзець, па сталярцы сёе-тое зрабіць, ды абутак дзецям паправіць—і ўсё сваё ўмельства перанёс Саўка цяпер у калгас.

Нехаця ішоў у калгас Саўка—нечага скрываць,—баяўся са старым расквітацца. А ўступіўшы,—раз быў нават выпісаўся—заяву падаўшы. Але ня доўга пасьля выпіскі сваёй з калгасу жыў бабылём Саўка. Прышоў да яго, у хату ягоную старшыня іхнага калгасу, пачаў гутарку, доўга яны ткалі вязьмо новых думак са старшынёй. Адно угаварыў старшыня. І абарвалася нешта цяжкое, грузнае ў тую ноч, пасьля гутаркі са старшынёй у Саўкі.

— Трэба-ж паспрабаваць новай жызьні...

І вось з таго часу Саўка ў калгасе.

Далягляды шырокія перад ім расчыніліся, клопаты новыя калгасныя выплылі, і работа, можна сказаць, дзяржаўная даручалася Саўку ня раз з таго часу...

Парашыў быў калгас іхні некалькі год таму пад садок аддаць дзесяць гектараў зямлі.

І даручана гэтая справа была Саўку.

І як добры гаспадар, узяўся за сад Саўка.

Першы экзамін на калгасьніка Саўка здаў таксама раньняй вясной.

Споўз з асьнежаных прастораў сьнежны дыван, ішла, як і сёлета, вясна-маладуха, ясная ды румяная. У калгасе з садоўніцтва прывезьлі прышчэпы для іхняга саду. І склалі прышчэпы пад паветкаю ў суседа Саўчынага Ляксандра—на захову.

Выходзіць гэта раз раньнім раньнем Саўка на двор—бачыць Ляксандра садзіць на сваім агародзіку прышчэпы, што прывезьлі яны з садоўніцтва. Не сьцярпеў Саўка тады ўчынку суседа. Падышоў да Ляксандры моўчкі, ня вітаючыся, павыдзіраў пасаджаныя прышчэпы з вясеньняй, прыгрэтай сонцам зямлі і адно толькі сказаў:

— Не для цябе-ж прывезьлі мы прышчэпы... Ну няўжо ты не разумееш, што так рабіць—нягодна. Ды няўжо-ж ты не разумееш, што сад калгасны, гэта-ж наш сад... Брыдка перад грамадою рабіць так...

Паспрабаваў тады апраўдвацца Ляксандра—ды нічога ня вышла. Саўка аказаўся мацнейшым за яго.

І адчуў тады Саўка сваю моц, сілу сваю.

Вялікая сіла абудзілася ў Саўкі.

Ці то за адданасьць Саўчыну рабоце калгаснай, ці то за тое, што Саўка садзіў калгасны сад, далі калгасьнікі саду таму, жартуючы, імя Саўчына:

— Саўчын сад.

І гэта зрадніла Саўку ўняпрыкмець з калгасам. Часткай неадлучнай пачаў адчуваць Саўка сябе ў калгасе. А калгасьнікі і ўявіць сабе не маглі, каб іхні калгас ды застаўся бяз Саўкі.

Расьце „Саўчын сад",—радочкамі прышчэпы высаджаны, выйдзе Саўка ў вольны, у выходны дзень—нацешыцца ня можа, радасьць грудзі расьпірае, жджэ Саўка, не дажджэцца першага яблыка з маладой краснашчокай пепенкі...

А калі на другую вясну зацьвілі яблыні цьветам бяляса-ружовым,—падыдзе Саўка да антонаўкі-маладушкі,—пахам кветак упіваецца,—радасьці ой як многа ад плённай работы,—а „сад саўчын"—на дзесяць гектараў вокам не абгорнеш!..

І расла сіла ў Саўкі на старасьці год, маладая моц расла разам з яблынькамі ды грушкамі „саўчынага саду".

З восені пачаў калгас іхні школу для дзяцей будаваць, ды клюб побач са школаю вырастаць пачаў. Спатрэбілася тады калгасу арганізацыя сталярнай майстэрні. Доўга думалі на праўленьні, як стварыць сталярную майстэрню ў калгасе. А як-жа яе створыш, калі ў горадзе інструментаў за грошы дастаць нельга? Прынялі прапанову Саўкі:

— У кожнага гаспадара тое-сёе знойдзецца—давайце абагулім—сталярную майстэрню мець будзем, а я, напрыклад, даю ўсе свае фуганкі, сьвёрлы, ды далаты, першым аддаю...

Назаўтра, хоць і лаялася старая на Саўку:

— Усё з хаты ды ў калгас зносіш...

Адно Саўка ў калгаснае праўленьне свае сталярскія інструманты аднёс, ды ў Тодара на другой палове хаты сталярную майстэрню і арганізаваў калгас сваімі сіламі...

— Нічога дзіўнага тут няма—у кожнага-ж гаспадара калі не фуганак, дык долата, калі ня долата, дык вугольнік, альбо ватэрпас знайшоўся,—гаворыць гэта Саўка проста і звычайна.

І вось сядзіць Саўка за сталом, капусту кіслую затаўканую з бульбай даядае, сьпіць Тэкля на печчы, усё ніжэй і ніжэй спаўзае гірка на вусатых ходзіках, ды думы чарадою плывуць у Саўкі:

— Стары... ня тая сіла, што ў маладосьці была... О, каб сілу тую, ды на такую гаспадарку, як наш калгас прыкласьці...

А за вокнамі хаты Саўчынай шумяць, абуджаюцца велічавыя хвоі Прыдзьвінскай пушчы.

Хутка і раньне...

Ідзе вясна.

А. УШАКОЎ

# БРЫГАДА № 1

*НАРЫС*

Паўтары месяцы таму назад Балткова Зьмітрака калгасьнікі абралі брыгадзірам. Хоць малады, а толк у гаспадарцы ведае,—гаварылі яны і ў гэтым ім ня суджана было памыліцца. Балткоў дасюль быў прыкладным калгасьнікам. У каго, калі не ў яго больш за ўсіх у мінулы год было працадзён? Іншы на пячы год праляжаў, ці на сонейку бок грэў, а яго ва ўсякае надвор'е можна было заўважыць занятым якой-небудзь справай. А ўвосень пры разьмеркаваньні прыбыткаў іншых гультаёў зайздрасьць брала: суседзі, а ён унь, не раўнуючы са мною, засекі збожжа панасыпаў. У гэтых словах была зайздрасьць, а разам з тым і павага селяніна, павага да заможнасьці здабытай чэснай, сумленнай працай у калгасе.

Ведалі ўсе яго вясёлым, а разам з тым і сур'ёзным дзяцюком. Таму, калі абіралі брыгадзіра, аднагалосна 15 чалавек спынілася на кандыдатуры Балткова.—Ды і ў грамаце ён цяміць, некалі пачатковую скончыў, працадні-ж запісваць таксама не абы-хто зможа.

Калгас аб'яднае некалькі пасёлкаў у шэсьць вучасткаў. На долю Балткова прыпаў першы вучастак Малая Чэрніца. У тую пору яшчэ былі студзеньскія заядлыя марозы, яшчэ толькі выпаў першы сопкі сьнег, пачынала ўбірацца ў моц позьняя сёлетняя зіма. Але, як прымаўка кажа, „зімой рыхтуй калёсы, а летам сані", ці: „зіма лета корміць" і наадварот. Балткоў ведаў з практыкі мінулых гадоў, што праз доўгія маразы зімы трэба ўгледзець вясну.

**Побач з старым Луганскім паравозабудаўнічым заводам пабудаваны новы завод імя „Кастрычнікавай рэволюцыі", які ўзбагаціўся мэханічным абсталяваньнем і заняў першае месца сярод прадпрыемстваў трактарнага машынабудаўніцтва. На здымку—пад'ёмны кран паравозазборачнага цэху заводу.**



Спачатку праца брыгадзіра была для яго нязвычнай. Але трэба толькі мець жаданьне працаваць і цьвёрдую практычную разважлівасьць, трэба быць у кантакце з масай, не працаваць аднаму, усім разам і арганізоўваць гуртам лягчэй, чым аднаму, усё-ж „што галава, то розум".

Вось далі кожнаму брыгадніку вырэзаць 13 кубамэтраў лесу і вывезьці на станцыю. Зімою ня тое, што ўлетку. Дужа пільнай работы няма. Можна павольней. Вясна яшчэ ня стукае ў дзьверы, не адмыкае ключамі сонца, зачарсьцвелую, засьнежаную зямлю. І ў гэтай павольнасьці брыгадзір адчуў небясьпеку. Быў скліканы сход брыгады, дзе па-гаспадарску параіліся, як лепей пачаць падрыхтоўку да сяўбы.—Як пасееш, гэтак і пажнеш. Ад гэтага залежыць увесь ураджай, а за ўраджай сёлета па-брыгадна будуць адказваць. Ды яшчэ-ж гэтулькі працы ўперадзе, кожную драбніцу трэба ўлічыць, не правароніць. З драбніц складаецца па агульнае, ад чаго залежыць будучы ўраджай, а значыць і дабрабыт калгасьнікаў. Трэба дабіцца выкананьня дырэктыў партыі і ўраду, каб кожны калгасьнік быў заможнікам. Цяпер у калгасе кожны гаспадар мае карову, а трэба, каб і хлеба было даволі і сабе і дзяржаве. За першую пяцігодку пабудавалі заводы. Яны цяпер чакаюць сыравіны, і, сыравіну гэтую абавязаны даць мы, калгасьнікі.

За выкананьнем лесанарыхтовак ішлі дні ўпартай работы па вывазцы гною. А гною ў калгасе—шмат. У калгасе ёсьць малочная фэрма, у ёй больш за сотню кароў. Глядзіш—праз які тыдзень зноў вывозь гной з кароўніц. І брыгада вывозіла яго на поле, запарушанае гурмамі сьнегу. А дома, кожны калгасьнік праз дзень старанна выграбаў з печы попел і бярэжліва ссыпаў у скрынку. Трэба скарыстоўваць усе мажлівасьці для ўзьняцьця ўраджайнасьці. Адначасова ішла гарачая работа па рамонту сельска-гаспадарчага інвэнтару. Больш здатныя да цясьлярства рамантавалі і рабілі новыя калёсы і бароны. Былі дагледжаны і праверany плугі і сеялкі, адносілі іх у кузьню, сачылі за выкананьнем рамонту. Ачышчалі і пратручвалі насеньне. Брыгадзір яшчэ ўперад за дзень заўсёды папярэджваў, каму належыць якая праца, каб назаўтра брыгаднікі не акалачваліся бяз справы, не растрачвалі гэткі дарагі час у падрыхтоўцы. Брыгадзір пільна і чула сачыў за кожным паасобку, каб у каго прагулы не ўваходзілі ў сыстэму. У канцы работы даводзіў да ведама пра колькасьць выпрацоўкі нормы кожнаму свайму брыгадніку. І ва ўсім гэтым быў гаспадарлівы догляд і заклапочанасьць, умелая расстаноўка сілы, гаспадарскае вока брыгадзіра.

* * *

За апошнія дні было гэтулькі сходаў! Але людзі не зважалі на іх шматлікасьць,—падрыхтоўка да вясны—пытаньне надзвычайнай важнасьці, таму, яшчэ завідна, з усіх вучасткаў сабраліся ў Малую Чэрніцу, напоўніўшы самую прасторную хату калгасу напружаным чаканьнем сходу, цікавасьцю, махорачным дымам, сьмехам жанчын, і расьцяглай разважлівай гутаркай барадачоў. Сёньня ў калгасе чыстка.

Пасьля слова старшыні калгасу Пласкунова залю напаўняе цішыня... Калгасьнікі любяць свайго старшыню за халодную дзелавую разважнасьць, за спакойныя ўдумлівыя парады, за праніклівасьць у кожную драбніцу калгаснай гаспадаркі. Яны бачаць у ім добрага гаспадара. Любоў і беражлівасьць да гаспадаркі ў земляробстве—аснова ўсяго. От так, як некалі кожны з іх жыў на маленькім кавалачку зямлі, лаяўся, браўся ў загрудкі з сваім блізкім суседам, калі той пера-

**Бронскі вагонабудаўнічы завод імя Урыцкага арганізавау цэх па вырабу шырспажыва. На здымку—адпраўка гатовай прадукцыі.**



косіць у яго лішні корх сенажаці, альбо сьвіньня залезе ў гарод, ды зрые колькі каліў ягонае бульбы. Лаяўся, бо адчуваў боль за кожны маленькі кавалак сваёй уласнасьці. У Пласкунова боль не за сваю частку, што ён атрымае з калгасу, боль не за сябе, а за ўсё сацыялістычнае дабро. За гэта калгасьнікі яго і паважаюць. Не дарма ён на пасадзе старшыні ўжо чатыры гады, з самага пачатку нараджэньня калгасу. І цяпер глядзяць на дапытлівы праціна ючы погляд яго, на суровасьць, што засталася на складках губ пасьля яго прамовы. Глядзяць калгасьнікі і маўчаць. Кожны перабірае ў думах сказаныя ім словы:

— Мы вычысьцілі з калгасу кулакоў і шкоднікаў, але ў нас, як відаць, яшчэ арудуе клясавы вораг, трэба яго выкрыць. Хто, як ня ён, хаваў пасьля малацьбы мяшкі збажыны, што пазнаходзілі ў саломе?

— Хто на полі ўначы абмалочваў снапы?

— Чаму няправільны вучот працадзен? Па чыей віне аблічвалі калгасьнікаў пры выплаце грошай?

От-жа многія ведаюць, хто гэта рабіў і маўчаць, зацяўшы ў глыбіне істоты едкую нянавісьць да шкоднікаў. Не адважацца выйсьці перад гэтым шматлюдным сходам і сказаць пра ўсю праўду свайму суседу проста ў вочы. Давесьці ўсю шкоднасьць уласьніцкага інстынкту. Хто, як ня ўласьніцкая прага, зьнявага да другога, прывяла да падобных выпадкаў? Сумленныя калгасьнікі прызвычаіліся быць даверлівымі да суседа, як да сябе. Цяжка паверыць, каб твой сусед ды цябе абкрадаў. А іншы мяркуе: — Ат, ці варта ў суседзтве заядацца? Ён-жа калгаснае крадзе. Што мне?! За туманам агульна-чалавечай літасьці ня бачыць, што крадзеж з калгасу, гэта крадзеж з твайго-ж кішэню. Але з-пад добрай чорназемнай глебы агаляюцца гнілыя карані шкодніцтва—гэтай пладавітай сьметнікавай расьліны.

Гаворыць старшыня:

— Каб не яны, кожны-б калгасьнік на працадзень атрымаў-бы не адзін кілё і сто грам жыта, а можа пяць кілё, ці таго болей.

Пустыя пляшывыя мясьціны ад недасеву на полі—парожнія засекі ў калгасьніка.

Па чыёй віне зарэзала цягнікам двое коняй. А грошы-ж, каб іх купіць бралі з калгаснага прыбытку. І вось спачатку неакрэсьленая шчамлівая боль за сваю ўласнасьць пачынае разьвязваць языкі, прымушае забыцца на бясклясавае суседзтва. Гаворыць клясавая нянавісьць. Яна выводзіць і становіць вока на вока перад сходам прыгорбленую з схаванай у плечы галавой, падлыжную постаць рахункавода Генрыха Пілага. На першы погляд гэта сьціплы, бязьвінны чалавек, з ціхай абрывістай гаворкай. Прыгнутасьць постаці і нялюдзкасьць яго нават наводзяць на думку пра ягоную прыдуркаватасьць. На справе-ж гэта—былы афіцэр, потым настаўнік, якога савецкая ўлада выкінула са школы за калецтва дзяцей. Перад старшынёю, ён з сябе паказваў ідэальнага, непагрэшнага рахункавода:

— Ды ў мяне ўсё на 120. Кнігі, як той баромэтр, глянеш і адразу ўсё відаць. Любая лічбіна... на 120! Ён сам быццам задаволен сваёй работай, сьмяецца доўгім падлыжна дабротлівым сьмехам. Абы адвесьці гаспадарлівае вока ад сябе. І ня відаць за гэтай ветлівай знадворнасьцю сапраўдны твар белагвардзейца. Ён не запрыходваваў колькасьць ураджаю, каб лепей было ягоным прыхлебнікам разбазарваць калектыўнае дабро. Насенфонду ён запісаў больш, чым у наяўнасьці. Гэта значыць, каб выехалі на сяўбу, а сеяць ня было чым. Па кнігах шмат, а ў засеках жменька. Няправільна налічаў працадні, не даваў зводкі выпрацовак і калгасьнікі хадзілі злосныя, ня ведаючы хто гэтаму віною—брыгадзіры альбо яшчэ хто. Абураліся і лаялі калгас.

— Э-э, ня трывожцеся. Кнігі яны ўсё скажуць. Тут адразу табе відаць на ўсе 120. Гэтак гаварыў калгасьнікам, а старшыні гаварыў, што няма кніг для вучоту і запісваў працадні на паперках, а паперкі раскідваліся, аблічваў пры разьліку, а потым з гэткімі-ж, як і сам, прапіваў працадні „сумленных“ калгасьнікаў.

Дзятлава Алеся, затаіўшы нянавісьць, наіўна сьмяецца перад сходам. У ёй ёсьць апора: яна ўдарніца, яна выпрацавала 370 працадзен. Былая кулачка, якая мела 70 дзесяцін зямлі, робіцца ўдарніцай. Яна ўсё лета не хадзіла на поле. Дый на што хадзіць, калі так добра і лёгка сядзець дома, даглядаць цялят і авечак.

— Э, мала што калі прапала чатыры цяленкі і сем авечак. Хіба ў гаспадарцы не прападае? Ветлівы рахункавод налічыць працадні. Эт мала што, калі той хто век свой жыў і ня бачыў сьвету за працай і потам, цяпер працуе на цяжэйшых палявых работах. Ім што. Яны прывыкшыя. А я ў бацькі лёгка працавала, не хадзіла на поле.

Балткоў Міхась, Кажамячкін і Бабкоў увесь час раскрадалі калгасную маемасьць. Старшыні цяжка дагледзіць, хто як працуе. Калгас—з былых хутароў, у ім шмат вучасткаў па 3—5 верст адзін ад аднаго. Тут неабходна свая пільнасьць кожнага калгасьніка. Даволі бясклясавай агульна-чалавечнасьці і спагадлівасьці ворагу! І сход сказаў проста прыкалгасным людзям:

— Годзе п'яўкамі сядзець на нашым карку, красьці з нашай кішэні і хавацца ад дзяржавы за нашую сьпіну. Мы рыхтуемся да сяўбы, мы хочам, каб ураджай у гэтым годзе быў такім, як загадала Рэспубліка. Мы хочам заможна жыць.

**На здымку—брыгада т. Сушчэнка за зборкай параразьмеркавальных механізмаў новага паравоза заводу імя Кастрычнікавай рэволюцыі. Брыгада абавязалася поўнасьцю выканаць указаньні ЦК партыі па своечасовым забясьпечаньні транспарту паравозамі.**



Не для таго-ж мы рвалі путы беднасьці, каб зноў заставацца пры х. Мы хочам мець засекі хлеба і стадолы жывёлы. Наш калгас ня хоча быць кашчаватым інвалідам, утрыманцам дзяржавы Ён сам хоча дапамагаць рабочым і Чырвонай арміі сваім плённым ураджаем. А шкоднікаў, каб не заміналі ў рабоце, прапусьцілі праз арфу клясавай пільнасьці нянавісьці, азадзьдзе, што засталося ад старыны ў спадчыну сацыялізму, вычысьцілі з арміі калгасанікаў.

Пад канец сходу старшыня яшчэ раз напўомні пра важнасьць гатоўнасьці да сяўбы і пра заўтрашні пробны выезд у поле. Разыходзіліся позьнім вечарам дахаты. Ішлі брыгадзіры акружаныя кожны сваёй брыгадай і ва ўсіх іх было тае гаворкі, што пра заўтрашні выезд. Кожны абмяркоўваў ці ўсё ў спраўнасьці, каб ды не застацца ў хвасьце. За паўтары месяцы штодзенных клапот, кожнаму хацелася быць першым. Здаровай гаспадарскай самакрытыкай перабіраліся ўсе драбніцы, абмяркоўвалася, чаму ня спраўны той ці іншы рамонт, хто гэтаму віною.

* * *

Тае ночы стары Нічыпар спаў мала. Позна прышоў са сходу, а калі лег на печы доўга ня мог заснуць, усе непакоіў заўтрашні выезд. Прыказаў жонцы пабудзіць яшчэ досьвіта. Ён конюх першай брыгады. Яго, як і брыгадзіра, як і кожнага брыгадніка непакоіць сяўба. Вось некаторыя брыгады мінулы год позна выехалі ў поле, ня справіліся з сяўбою дык і атрымалася: якая праца—такі і ўраджай. А заўсёды балюча, калі ў сваім няшчасьці вінаваты сам чалавек.

Ён, у думках, уяўляе заўтрашнюю ўрачыстасьць. Няпрыемна, калі яна чым-небудзь сапсуецца па яго віне, калі на сонцы радасьці будзе стаяць чорная пляма ягонай доўгай вуглаватай постаці.

Спаў ён чула, нават не дачакаўшыся покуль пабудзіць жонка, ціханька адзеўся і ў вялікіх ботах папаўся да канюшні, напаіў і даў сена коням. Потым кожнага каня дбайна аглядаў, узяў шчотку і замілавана чысьціў: трэба, каб на конях поўсьць на сонцы адлівалася. Ён успомніў свайго каня, часоў, калі яшчэ жыў аднаасобнікам на доўгіх шнурках быльняговых загонаў. Тады ў яго каня перад вясною сьлязіліся мутныя вочы і дрыжэлі слабыя ногі, а поўсьць стаўбурчылася да галавы і хадзіў ён хістаючыся як п'яны ці ўгарэлы і ня было ў яго сілы пацягнуць плуг. У калгасе спраўныя кармы, а ў мяне нават трушанкі ня было. Вось перад выездам у поле хутка пачнем аўсом карміць...

Балткоў Хвёдар зайшоў у сьвіран. Хоць ён бачыў штодзень спраўныя плугі і бароны, але каб быць супакойным, з цікавасьцю быццам бачыць іх упяршыню, яшчэ раз агледзіў і праверыў хамуты, расклаў іх па нумарох на кожны плуг. А калі вусы-стрэлкі старых ходзікаў на сьцяне старшыні падыходзілі да 12-е гадзіны, па загаду Пласкунова уся брыгада рушыла да сьвірану. Было прыемна глядзець на гэтую дружную зьяднанасьць калгасьнікаў. Роўнай шарэнгай выстраіліся 9 аднаконных плугоў і пяць параконных сакаўскіх. Борзда па парадку нумароў запрагаліся коні, у падагнаную да іх вупраж. Новыя пастрамкі напяліся як струны, мяккія аблямованыя хамуты ёмка прылягалі да каняй. Крыху нязвычайны для вока малюнак: на поле яшчэ расьцілаецца белым абрусом сьнег, сонца яшчэ няветліва пазірае з-за хмар, на зямлі гаспадарыць сівы мароз, а тут людзі выехалі з плугамі. Гэта было сваясаблівае сьвята, сьвята дэманстрацыі дасягненьняў, урачыстасьць над пераможанымі старымі звычкамі дзядоў. У кожнага на твары ляжала сур'ёзнасьць, а разам з тым радасьць, што поўтарамесячная падрыхтоўка дала пленныя вынікі.

**На заводзе „Промет“ у Ленінградзе, канструктарам т. Бойка сконструяваны мотацыкл для барацьбы з пажарамі. У мотацыкле зьмешчаны—цэнтрабежны насос, моцнасьцю ў 700 літраў у мінуту, 105 мэтраў вышыню 8 мэтраў заборных. Мотацыкл разьвівае хуткасьць да 80 кілёмэтраў у гадзіну. На здымку—адзін з такіх мотацыклаў.**



— Ото-ж павытвараюць, век на сьнягу не аралі, зімой не клапаціліся пра вясну і хлеб такі-сякі мелі... гаворыць старая жанчына і па голасу яе чуваць, што яна гаворыць не са злосьцю, гаворыць абы гаварыць, бо бацькі так жылі і ёй, старой, таго хочацца для прыліку, бяз жаднае патрэбы падтрымаць старыну.

— А мы таму і запрагаем зімою, што ня хочам такі-сякі хлеб з сьмецьцем есьці. Хочам пульхнага, умалотнага хлеба з багатага пашынскага ўраджаю,—адказваюць брыгаднікі. Яна ў думах пагаджаецца, а толькі неякавата адыйсьці ад сябе ранейшай.

— Хіба ня відаць, што спраўна ўсё, дык толькі час дарма марнуеце.

— Давай, цётка, дзе твая мясьціна пад буракі. Ураз зааром,—сьмяюцца калгасьнікі.

Ля месца выезду вялікі натоўп. Сюды прышлі і з іншых брыгад гэтага вучастку. Стары конюх любуецца стройнасьцю коняй. Заўважыўшы дзядоўнік у грыве скоранька яго выблытвае.

— А ты, „Вясёлая“, чаго нос апушчаеш. І ён за вобраць падымае ёй вышэй галаву, быццам яна гэтым псуе ўсю ўрачыстасьць выезду.

— Вось калі так дружна ды акуратна прапрацуеце ўсё лета, тады з хлебам будзем.

— Ня схібім, пастараемся апраўдаць вашу надзею, запэўнівае брыгадзір.

Далейшая праверка паказвае стан падрыхтаванасьці. Апроч патрэбнага інвэнтару ў брыгадзе ёсьць лішкавых пяць плугоў, мала што можа здарыцца, а калі выедзеш на поле—рамантаваць будзе позна, адзін карпусны плуг, чатыры дзербакі, два хамуты. У сьвірану складзены і дагледжаны ўсе машыны, адрамантавана сем старых калес, зроблена 15 новых, але яшчэ ня кованы.—Праз колькі дзён акуем,—гаворыць брыгадзір. З кузьняй была няўпраўка: пяць брыгад і ва ўсіх аднолькавая патрэба. Да другога выезду ўсё падрыхтуем. У брыгадзе сабрана 25 пудоў попелу. Яна абяцае яшчэ да вясны сабраць па цэнтнеру на кожнага брыгадніка. Вывезена—411 вазоў гною.

У гэты дзень 6-га сакавіка пробныя выезды былі і ў іншых вучастках калгасу: у Семанах, Асабнякох, Чорналесьсі і Самахвалах. Старшыня з камісіяй правяраў гатоўнасьць брыгад да сяўбы і ўсюды, у асноўным, калгасьнікі падрыхтаваліся да выезду ў поле, усюды добра дагледжаны коні, толькі яшчэ не сабраны калёсы, ды на вучастку Семаны дрэнна адрамантаваны хамуты.

— Ці гэтак вы абшывалі хамуты на свайго ўласнага каня, калі былі аднаасобнымі гаспадарамі? ён-жа зараз змуляе плечы, ставіць шурпатае запытаньне перад іхнім сумленьнем Пласкуноў. І брыгаднікам няпрыемна за гэтыя словы, няпрыемна за сябе, што калгаснае ня лічаць сваім, выходзіць, што працавалі ня так, як належыць, абы з рук збыць. І яны хочуць выправіць сваю неахайнасьць у працы, яны абяцаюць у трохдзенны тэрмін перарабіць хамуты нанова.

Увечару ў праўленьні калгасу падводзіліся вынікі выезду брыгад. За 2—3 вярсты з усіх вучасткаў прышлі брыгадзіры. Кожнаму рупіла ведаць хто з іх першы, а хто застаўся ў хвасьце.

Першае месца выходзіць у падрыхтоўцы заняла брыгада № 1 брыгадзіра Балткова Зьмітрака.—Малайчына ты, змог арганізаваць работу брыгады. Акуратнасьць у цябе, як у Чырвонай арміі. І брыгадзір усьміхаецца прыемнай усьмешкай.

— Я-ж што... Я-ж з брыгадаю.

— У тым твая заслуга, што з брыгадаю. Каб адзін працаваў, ніхто-б цябе за такую работу не пахваліў.

— Мы—чырвонаармейцы зямлі. Фронт сёлетняй сяўбы вельмі адказны... Дык мы агульным напорам.

— Няпрыемнае месца, паганенькае, можна сказаць, гэты самы хвост,—прыгадвае нехта з першай брыгады пра адстаючых.

— Ну, ну, не фанабэрся. Пастараемся, каб да другога выезду ў поле адстаючых сярод нас ня было... Работу пад узаемны кантроль. Не за рэклямнасьць, а за здаровае спаборніцтва брыгад. І ў гэтых словах чуецца дружная працоўная зьяднанасьць.

Віцебшчына.

Сакавік 1933 г.

Выданьне Дзяржаўнага Выдавецтва Беларусі.

Адказны рэдактар МІКОЛА ХВЕДАРОВІЧ.

Друк. імя Сталіна. Зак. № 871 У ліку 3.?000 экз. Уп. Галоўлітбела № А—

ЦАНА 30 кап.

# ПАДПІШЫСЯ НА 1933 г.

на адзіны ў БССР ілюстраваны двухтыднёвы часопіс



# ЧЫРВОНАЯ БЕЛАРУСЬ



**24 НУМАРЫ НА ГОД**

ПАД РЭДАКЦЫЯЙ МІКОЛЫ ХВЕДАРОВІЧА

## ПАДПІСНАЯ ЦАНА

| | |
|---|---|
| На год | 7 р. 20 к. |
| На 6 м-цаў | 3 р. 60 к. |
| На 3 м-цы | 1 р. 80 к. |

ЦАНА АСОБНАГА НУМАРУ **30 к.**



Часопіс „ЧЫРВОНАЯ БЕЛАРУСЬ“ прадаецца ўва ўсіх кнігарнях Дзяржаўнага Выдавецтва Беларусі, кіёсках Саюздруку, чыгуначных і паштовых кіёсках, у газэтаносцаў, ува ўсіх гарадох і мястэчках БССР.

## РАЗЬДЗЕЛЫ ЧАСОПІСУ

### МАСТАЦКІ:

Вершы, апавяданьні, навэлі савецкіх паэтаў і пісьменьнікаў Беларусі.

### КРЫТЫКА:

Артыкулы пра палітыку партыі ў мастацкай літаратуры, пра лепшыя творы савецкае літаратуры, пра тэатры, кіно, выяўленчае мастацтва БССР і інш.

### НАРЫСЫ:

З фронту сацыялістычнай індустрыі, пра сацыялістычную перабудову вёскі, пра нацкультбудаўніцтва, партрэты лепшых ударнікаў прадпрыемстваў, калгасаў, саўгасаў і інш.

### ГУМАР і САТЫРА:

Фэльетоны, гумарэскі на літаратурныя тэмы, пароды, эпіграмы і інш.

**У часопісу ўдзельнічаюць лепшыя сілы савецкае літаратуры Беларусі. Часопіс багата ілюстраваны малюнкамі і фото.**

**ПАДПІСКА ПРЫМАЕЦЦА** ўсімі агэнцтвамі сувязі і лістаносцамі, кнігарнямі ДВБ, аддзелам падпіскі кнігацэнтру ОГІЗ'у РСФСР, усімі яго філіаламі і ўпаўнаважанымі.

Адрас рэдакцыі: г. МЕНСК, САВЕЦКАЯ 59. Тэлефон 22785